# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 11 (3227) Год LXIII · Беласток, 18 сакавіка 2018 г. · Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)



Жаночая Сакольшчына → 3



Калішняе жыццё → 8

# Грамадска-палітычная сітуацыя на Беласточчыне ў 1944-1956 гадах

Тэкст і фота
**Аляксея МАРОЗА**

У Цэнтры прамоцыі рэгіёна «Чарлёнка» ў Гайнаўцы 1 сакавіка адбылася сустрэча з **прафесарам Яўгенам Мірановічам**, гісторыкам з Універсітэта ў Беластоку, членам управы Беларускага гістарычнага таварыства на тэму «Грамадска-палітычная сітуацыя на Беласточчыне ў 1944-1956 гадах». У прафесара Яўгена Мірановіча быў добры кантакт з публікай — жыхарамі Гайнаўкі, якім цікава была тэма пра ўмовы, у якіх апынуліся беларусы пасля вайны на Беласточчыне. Дакладчык распавёў пра міграцыю мясцовых беларусаў у Савецкі Саюз, узброенае падполле на Беласточчыне і складанае штодзённае жыццё беларусаў у пасляваенны час.

Госця і публіку прывітаў арганізатар спаткання, старшыня Фонду «Царкоўная музыка» ў Гайнаўцы **Мікола Бушко**, які адзначыў, што прафесар Яўген Мірановіч зараз кіруе Кафедрай міжнароднай палітыкі Універсітэта ў Беластоку і з'яўляецца спецыялістам па тэме арганізаванай сустрэчы.

— Камуністычная партыя Беларусі ў канцы вайны змагалася, каб Віленшчына і Беласточчына ўвайшлі ў састаў Беларускай ССР. У ліпені 1944 года савецкія ўлады бачылі Беласточчыну ў межах Беларусі. Аднак прынята рашэнне, што Беласточчына застанецца ў Польшчы, якая мае стаць аднароднай у нацыянальным плане дзяржавай. Паўсталі тады планы перасяліць беларусаў з Беласточчыны ў Беларусь, а палякаў з Беларусі перш за ўсё на Беласточчыну, на месца вывезеных беларусаў. Такі ж маштабны абмен украінцамі і палякамі быў праведзены на ўкраінска-польскім памежжы. У нашым выпадку аказалася, што ў Беларусі налічылі 550 тысяч палякаў і толькі 130 тысяч беларусаў у Польшчы. З-за вялікіх патрат насельніцтва Беларусі падчас вайны такі абмен савецкім уладам не быў выгадны і агітатары сталі знеахвочваць католікаў да выезду з Беларусі ў Польшчу, абяцаючы жыхарам вёсак, што будуць гаспадарыць на сваіх гаспадарках і пераконваючы запісаных на выезд, што яны — беларусы каталіцкага веравызнання і павінны застацца дома. У нас камісары вялі інтэнсіўную агітацыю на выезд у Беларусь, але ахвотных было мала, бо многія яшчэ памяталі бежанства, з якога не так даўно вярнуліся. Канчаткова з Беласточчыны ў Савецкі Саюз выехала каля 38 тысяч чалавек, але 2 тысячы вярнуліся пазней назад у Польшчу, калі такое яшчэ дазвалялася. Частку беларусаў з Беласточчыны вывезлі ў глыб Расіі, адкуль некаторыя з іх вярнуліся пазней у Беларусь, бліжэй дому. Абяцалі, што нашы перасяленцы атрымаюць усё, што пакінуць у Польшчы, а на практыцы ў знішчаным ваеннымі дзеяннямі Савецкім Саюзе не атрымлівалі амаль нічога. Найбольш у Беларусь выехала жыхароў Сакольшчыны і наваколля Сямятыч, дзе дзейнічалі ўзброеныя падпольныя атрады, якія прыходзілі ноччу і палохалі беларусаў. У Польшчу з Беларусі на пастаяннае жыхарства пераехала каля 250 тысяч людзей, у галоўным жыхары гарадоў, якія не мусілі пакідаць сваёй зямлі. Мелі яны быць паселены на Беласточчыне на месца перасеўленых беларусаў. Аднак ад пачатку выклікала гэта канфлікты і часта перасяленцы з Беларусі затрымліваліся ажно на Вернутых землях у наваколлі Шчэціна, — сказаў прафесар Яўген Мірановіч і адзначыў, што калі з Беларусі ўдалося выехаць у Польшчу пад прыкрыццём польскай нацыянальнасці беларусам каталіцкага веравызнання, якія раней дзейнічалі ў беларускім нацыянальным руху і апасаліся праследу ў Савецкім Саюзе, то спецслужбы ўжо не дазвалялі даехаць да іх сямейнікам.



Прафесар Яўген Мірановіч (злева) і старшыня Фонду «Царкоўная музыка» Мікола Бушко

Старшыня Фонду «Царкоўная музыка» Мікола Бушко сказаў, што час сустрэчы быў назначаны на 1 сакавіка невыпадкова — у гэты дзень у нашай краіне адзначаецца Нацыянальны дзень памяці выклятых жаўнераў. Адзначыў ён, што маршы памяці выклятых жаўнераў у Гайнаўцы выклікаюць абурэнне жыхароў горада, таму што ў час гэтага мерапрыемства праслаўляецца, між іншым, Рамуальд Райс, псеўданім «Буры», якога атрад вінаваты ў пацыфікацыі Залешанаў і іншых вёсак былога Бельскага павета. Прафесар Яўген Мірановіч успомніў аб кніжцы Пётра Зыховіча «Skazy na pancerzach», у якой апісваецца, між іншым, дзеянні атрадаў «Бурага» і «Лупашкі» на Беласточчыне і кніжцы Ежы Кулака «Rozstrzelany oddział», у якой змястоўна прадстаўлены дзеянні выклятых жаўнераў. Паколькі злачынствы атрадаў «Бурага» і «Лупашкі» ў адносінах да беларусаў вядомыя жыхарам Гайнаўшчыны, прафесар Мірановіч звярнуў увагу сабраных на неапісаныя дагэтуль выпадкі злачынстваў груп, якія выходзілі з лесу і наведвалі жыхароў вёсак з мэтай забраць у іх харчы і вопратку. Зараз многія ўдзельнікі гэтых груп без падрабязнай разборкі ўключаюцца ў лік выклятых жаўнераў і ўзвялічваюцца падчас патрыятычных святкаванняў, а гэта шкодзіць добраму імені выклятых жаўнераў, якія змагаліся за ўсталяванне ў Польшчы незалежнай ад Савецкага Саюза ўлады.

— Раней польская гістарычная тоеснасць будавалася на Арміі Краёвай і Варшаўскім паўстанні, а зараз — на памяці выклятых жаўнераў, якімі называюцца таксама асобы, якія не заслугоўваюць такога звання. Апошнімі гадамі ў Гайнаўцы праходзяць маршы памяці выклятых жаўнераў і напамінаюць мясцовым жыхарам аб пасляваенных жудасных здарэннях, калі гінулі мірныя жыхары нашых вёсак, у тым ліку дзеці і жанчыны. Калі ў час вайны і непасрэдна пасля яе дзейнічала Армія Краёва, панавала дысцыпліна, а незаконныя дзеянні яе жаўнераў супраць мірнага насельніцтва сурова караліся. У Нацыянальным вайсковым згуртаванні дысцыпліна была ўжо меншая, а былі атрады, якія не падпарадкоўваліся ніякаму камандаванню і яны ўчынілі многа злачынстваў. Пасля вайны ўзнікалі ўзброеныя групы з некалькіх чалавек, якія падаваліся за польскае войска і займаліся рабаваннем. Нават дзясяткі гадоў пасля вайны здараліся ў нас выпадкі, калі падвыпіўшыя адны сяляне патрабавалі ад другіх аддаць кажух, ці іншае зрабаванае дабро, забранае ў пасляваенныя гады. Аднак абрабаваныя людзі баяліся сведчыць супраць рабаўнікам з лесу і нельга было абвінаваціць канкрэтных асоб. Пасля перамогі савецкай арміі пад Курскам і Сталінградам на Беласточчыну былі закінуты таксама савецкія партызанскія атрады з мэтай ліквідаваць варожыя ім партызанскія падраздзяленні і яны таксама сілком забіралі ў мясцовага насельніцтва харчаванне і вопратку. Аднак на Беласточчыне ў цэлым у пасляваенны перыяд было яшчэ адносна спакойна ў параўнанні да польска-ўкраінскага памежжа (напрыклад да Люблiншчыны, Жэшаўшчыны) і многіх іншых месцаў у Еўропе, дзе панаваў кашмар, былі забіты тысячы мірных людзей, якія хацелі толькі пражыць ваенную завіруху. У нашай краіне склаўшаяся сітуацыя была паслядоўнасцю канфліктаў, якія разгарнуліся ў даваенны і ваенны час на польска-ўкраінскім памежжы, а якіх не было на памежжы польска-беларускім. У вёсках, дзе беларусы завязвалі самаабарону, атрады з лесу не прыходзілі, не забівалі людзей і не рабавалі. Напрыклад мужчыны ў вёсцы Дэнiскі, каля Бельска-Падляшскага, завязалі ORMO, да якога ўступілі 15-20 чалавек. Атрымалі яны ружжо і вартавалі сваю вёску. Узброенае падполле ні разу не наблізілася да Дэнiсак на адлегласць выстралу, бо нават калі б пяць стрэлаў трапіла ў атакуючых, патраты маглі быць вялікімі. У людзей з лесу не было ж доступу да лячэння ў шпітальных умовах, — распавядаў прафесар Яўген Мірановіч.

Дакладчык наблізіў умовы жыцця вясковага насельніцтва, у тым ліку беларусаў, у пасляваенны час:

— Складанае было штодзённае выжыванне беларусаў у пасляваенныя гады, паколькі жыхарам вёсак Беласточчыны трэба было справіцца з абавязковымі пастаўкамі збожжа, мяса і іншых сельскагаспадарчых прадуктаў для дзяржавы. Жыхары сёл апрача падстававага падатку плацілі таксама ўзносы на адбудову Варшавы, электрыфікацыю і іншыя мэты, што цягнулася нават да шасцідзясятых гадоў. Я падлічыў, што ў адной вёсцы на год было назначаных ажно 60 дзён шарварак, а адсутнасць на іх каралася грашовымі штрафамі. Аднак зняможаным выжываннем у складаных умовах людзям запамяталіся перш за ўсё радасныя здарэнні з моладасці, напрыклад, калі па цяжкім дні працы цэлую ноч спявалі, а рана ізноў ішлі на работу. Пасля вайны маладыя людзі хацелі жыць, весяліцца, вельмі ахвотна жаніліся. Тады адбылася дэмаграфічная эксплазія па вёсках Беласточчыны, — гаварыў прафесар Яўген Мірановіч.

Госць сустрэчы сказаў таксама пра кар'ерны рост вясковага насельніцтва пасля

працяг → 5





# Канфіскат

Ёсць у свеце рэчы адназначна станоўчыя і радасныя, ёсць супярэчлівыя і складаныя, якія не паддаюцца адназначнай ацэнцы і ўспрыманню. А ёсць абсалютна негатыўныя, якія і абмеркавання не патрабавалі б, калі б не пэўныя акалічнасці. Ледзь ні паўгорада над Нёманам на мінулым тыдні заклеілі рэкламнымі ўлёткамі. Даўно не даводзілася бачыць настолькі навязлівай рэкламы. Найменне тавару, каб не рабіць дадаткова тут прамоцыі, называць не буду, галоўнае не ў гэтым, а ў тым, што гэта так званы канфіскат. Гэтае слова на лістоўцы вылучана чырвоным колерам. Вылучана як сінонім халяўнага і танна дасягальнага. Пададзены таксама адрас, дзе будзе прадавацца за паўцаны, ці нават танней, тавар, які забралі ў нейкай фірмы ці індывідуальнага прадпрымальніка. Не сумнявайцеся, што ніякая інспекцыя, ніякая міліцыя, не будуць шукаць тых, хто незаконна расклеіў столькі абвестак. У іх усё „пад дахам". А зніжаныя ў палову цэны ад рэальнага кошту сапраўды прыцягнуць прагных да „халявы" пакупнікоў, тут можаце не сумнявацца. У Гродне нават адмысловая крама адчынена, дзе прадаюць толькі канфіскаванае. Наведваюць яе, канешне, людзі асобага складу.

Гэта ва ўсім свеце канфіскаваны, а значыць незаконна перамешчаны ці ўвезены ў краіну, тавар падлягае знішчэнню. Так робіцца з усім асартыментам, уключаючы цыгарэты і алкагольныя напоі. У Беларусі ж зусім не так — канфіскаванае хіба ніколі не знішчаецца (прынамсі, я пра гэта не чуў), а пускаецца ў продаж. Пры тым прадае канфіскаванае не абы-хто. Зразумела, што гэта робіць дзяржава ці фактычна нейкія яе гаспадарчыя структуры. Сама дзяржава не ўмее ні забяспечваць людзей годнай працай з належным заробкам, ні ўладкоўваць новыя працоўныя месцы, ні прыцягваць інвестыцыі з розных краін, ні ствараць спрыяльныя ўмовы для вядзення бізнесу. А вось штрафаваць, абкладаць і душыць падаткамі, канфіскоўваць — гэта яе стыхія. Адсюль і розныя дэкрэты „аб дармаедах", адсюль і мноства адміністрацыйных і крымінальных спраў, датычных парушэнняў мытнага, падатковага і іншага заканадаўства, якое мае найперш карны характар.

Асабіста я не купіў у сваім жыцці аніводнай канфіскаванай рэчы. І таму, што такія прадметы маюць асаблівую адмоўную энергетыку. І найперш таму, што ведаю сутнасць гэтай дзяржавы, якая пад выглядам законнасці, найчасцей проста цынічна забірае напрацаванае „потам і крывёй" тымі ж прадпрымальнікамі. Перад тым, стварыўшы тым прадпрымальнікам не проста цяжкія, а нават невыканальныя ўмовы вядзення бізнесу, фактычна змушаючы іх нешта парушаць і абыходзіць у розны спосаб штучныя перашкоды. Замест таго, каб увесці простыя правілы і рэальныя падаткі.

Расейскія бальшавікі былі надзвычай вынаходлівымі ў розных эўфемізмах. Гэта былі сапраўдныя майстры слоўнай эквілібрыстыкі. „Продразвёрстка", „экспроприация", „продналог", „раскулачивание", „национализация" — гэта толькі частка тэрмінаў, якія абазначалі па сутнасці адно — бязлітаснае рабаванне народа, гвалтоўнае забіранне чужога. Пры тым саветы стварылі такую сістэму, якая заахвочвала даносы і паклёпы. Насельніцтва было ўцягнутае ў гэты працэс напоўніцу, даносчыкам часта перападала нешта з канфіскаванай маёмасці ахвяр. Такім чынам улада інспіравала, стымулявала і культывавала ў людзях найгоршыя якасці, заахвочвала цёмныя праявы іх характару. Цяперашняя ўлада РБ — такая ж самая паводле сваёй прыроды і сутнасці. Нездарма Савецкі Саюз сённяшнімі прапагандыстамі ўсюды называецца „великой страной", а з падручнікаў па гісторыі знікла праўда пра злачынны, антычалавечы сталінскі рэжым. Невыпадкова, што і на ўлётцы рэкламы канфіскату, пра якую згадана вышэй, выява жанчыны менавіта ў савецкім стылі. Новы час, новыя шыльды, новыя асобы, а стыль той самы. Амаль і тая ж самая рыторыка, культывацыя стукачоў і даносчыкаў.

Не хадзіце ў крамы канфіскату. І тым больш нічога там не купляйце!

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Дробка песімізму ў некалькіх часцінах



Частка трэцяя

Нішто не прадказвае, што заўтра будзе лепш. Няпэўнасць заўтрашняга дня нараджае дрэнныя эмоцыі, якія пастаянна бяруць уладу над чалавечым светам. Некаторыя рацыі — правільныя! — адмяняюцца рацыямі навыварат — вядома, самымі правільнымі. Усе ведаюць сваё. Кожны чалавек мае пад рукой самыя адпаведныя аргументы. Ісламісты — свае, ультракатолікі — свае. Падобна фашысты, нацыяналісты, камуністы і лібералы. І кожны мае рацыю. Габрэі і антысеміты, масоны і іегавісты. І бедныя, і багатыя, і дурныя, і разумныя — кожны мае сваю рацыю, праўду. Працікі ПіС сваю, і прыхільнікі — сваю. Для адных Еўропа гніе знутры, для другіх Польшча ўстае з каленяў. А для яшчэ іншых Рэч Паспалітая становіцца штораз менш дарэчнай. Але яна становіцца ўсё больш паспалітая светапоглядная упартасцю, кіраўніцтвам палітычных трагладытаў, дакучлівасцю разнамасных дактрынёраў з ультраскай псіхікай, урэшце крывадушнасцю, якая з'яўляецца вытворнай ад прыкасцельнай парафіяншчыны... Можна было б пералічваць польскія негатывы бясконца, а процілеглы бок можа паказаць бясконцую колькасць станоўчых прыкладаў. Пытанне, аднак не ў тым, хто мае рацыю, але чаму яна ставіцца як вострая зброя. Прытым б'юць ёю ўсляпую, па-вар'яцку, бязлітасна, не звяртаючы ўвагі на тое, што кладуць за сабою покаць трупаў. І неабавязкова чалавечых трупаў. Словы недаравальныя таксама трэба памятаць. Аб сенатары РП ад Права і справядлівасці Банкоўскім таксама. Праўда, што ён ужо быў адхілены ад ПіС, але толькі пасля таго, як паклаў на свой профіль у фейсбуку відэакантэнт з нацысцкім зместам з відавочным антыяўрэйскім паведамленнем. Да гэтага часу Банкоўскі, аднак, знаходзіўся пад абаронай сваёй партыі. Пад прыкрыццём сваёй партыі зганьбаваў не аднаго чалавека, не адно злачыннае неадназначнае слова прамовіў публічна. Не зважаючы на яго дзёрзкія паводзіны, Права і справядлівасць санкцыянавала яго палітычную, можа лепш сказаць шавіністычную ідэалогію канфрантацыі, прапаведаваную калегам па партыі. Нягледзячы на тое, што Банкоўскі гаварыў сваім голасам, але вымаўляў услых думкі калег па партыі. Калі не ўсіх, на самой справе многіх з іх. Дарэчы ў гэты момант успомніць, што ПіС ад самага пачатку спасылаўся на закон і справядлівасць. Аднак, у выпадку калегі Банкоўскага не хапіла яму і аднаго, і другога, ад чаго яшчэ больш крыўдна, бо ў адпаведнасці з польскім заканадаўствам той, хто распаўсюджвае нацысцкі змест павінен быць юрыдычна прыцягнутым да адказнасці. Закон і справядлівасць у гэты момант кіруе польскай дзяржавай. Але я не думаю, што за дзяржаву хацела б несці поўную адказнасць. Такая праўда. Паводле мяне. Паводле ПіС няпраўда. І тут я згодны з ім. Няпраўда тое, што няпраўдай з'яўляецца праўда, якую я апублікаваў вышэй. Ці гаварыўшы, што адной праўды няма, не адкрыю як Калумб Амерыку, якую за некалькі сотняў гадоў да таго адкрылі вікінгі? Аказваецца, нам усё яшчэ трэба нагадваць тое, што занадта хутка размываецца на картах ведаў. І Халакост, і Ядвабнае, і Руанду, Камбоджу. Праўда ніколі не была толькі адна. Хтосьці гіне ў імя праўды, хтосьці забівае ў імя праўды. Праўдай шмат. Справа ў тым, каб знайсці іх агульныназоўнік, а крайнія аргументацыі аддаць ва ўладанне міфаў. Міфы не хлусяць, але, што варта адзначыць, на самой справе не расказваюць усёй праўды. Іншая справа ў тым, што праўда, якой мы больш за ўсё жадаем, значаць проста абсалютная праўда, не існуе. Або існуе толькі ў нашых добрых снах.

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Турыст без візы

Мінулыя выхадныя правёў я ў Гродне, карыстаючыся магчымасцю бязвізавай паездкі па турыстычным пропуску. Туды і назад падарожнічаў я цягнікам. Ужо некалькі гадоў не ехаў я гэтым відам транспарту і мне самому было цікава паназіраць за ўсімі зменамі, якія адбываюцца на чыгуначным маршруце. Па-першае, сапраўды ў цягніку ў суседніх купэ ехалі людзі з такімі ж як у мяне дакументамі, значыць — дзейнічае бязвізавы абмен. Даўно не быў я ў Кузніцы, таму на прывакзальнай плошчы зразу заўважыў, што знікла спажывецкая крама. Малы рух і маршруткі натуральным чынам рэгулююць спажывецкія патрабаванні ўсходніх суседзяў. Затое з'явіліся два аптэчныя пункты. Аказваецца, што зараз лякарствы з Польшчы — адны з самых важных тавараў, якія набываюць тут беларусы. Дарэчы, мытніца таксама ў мяне запыталася, якія я вязу лякарствы і паглядзела маю сумку. Пабачыўшы, што ніякіх аптовых загрузак у мяне няма, прапусціла мяне да маіх гродзенскіх сяброў.

Пры перасяканні мяжы з'явілася, на маю думку, адна нязручнасць. Раней міграцыйную картку беларускія памежнікі выдавалі ў цягніку, дзе можна было яе спакойна запоўніць. Зараз пасажыры атрымліваюць яе ў чарзе да пашпартнага кантролю і сапраўды нязручна запаўняць бланк стоячы, калі хуценька падыходзіш да памежніка. Таму сапраўды лепей прыдбаць такія бланкі, напрыклад, у консульстве і загадзя іх запоўніць. Дарэчы, на гродзенскім чыгуначным вакзале таксама адбыліся змены. Едучы назад у Польшчу, традыцыйна падумаў, што затаваруся ў бяспошлiннай краме, бо навошта загадзя купляць дазволеную адну бутэльку добрага алкаголю. І тут я атрымаў паразу па поўнай праграме. Пасля рамонту значна паменшылася прастора гэтак званага адстойніка. І працуе толькі адна крама, а не як раней некалькі. Чарга аказалася вельмі доўгай і я проста не паспеў дайсці да касы, бо цягнік ужо ад'язджаў. З майго разявацтва пасмяялася потым польская мытніца, маючы перад сабою чалавека, які вяртаецца з Беларусі без спіртных і тытунёвых прадуктаў. Варта таксама адзначыць, што польскія мытнікі вельмі дакладна глядзяць увесь цягнік, ці не едзе папяросная кантрабанда. Не ведаю, ці гэтак бывае ў нядзелю, ці таксама ёсць і ў будныя дні, але класічных, аператыўных гандляроў цыгарэтнай прадукцыяй я проста не бачыў.

Адкрыццё на «замежны турыстычны прадукт» прынесла і добрую змену, калі ідзе пра абменнікі валюты. Спакойна і па добрым курсе можна мяняць залатоўкі на беларускія рублі, без патрэбы ранейшай куплі долараў ці еўра. Дарэчы, беларускія рублі сваім выглядам вельмі падобныя на еўрапейскую валюту і таксама, што не менш важнае, рубель моцна трымае сваю цану. Вельмі ўважліва трэба разбірацца з металічнымі манетамі, бо яны маюць сваю каштоўнасць, а не лічыць іх як наш, польскі грашовы білон. Таму ў крамах трэба быць вельмі ўважлівым, калі ідзе пра здачу з папяровых купюр.

У Гродна трапіў я акурат тады, калі былі прадоўжаны свабодныя дні ў сувязі са Святам 8 Сакавіка — значыць дня жанчын. Хаця я прыехаў дзень пазней, але дух святочнага дня расцягнуўся плаўна на наступныя дні. Найбольш папулярнай кветкай у гэтыя выхадныя былі цюльпаны і, здаецца, назіранне за святкаваннем было для мяне вяртаннем у васьмідзясятыя гады мінулага стагоддзя. Але трэба памятаць, што жанчынам ніколі досыць адводзіць увагі, бо ж так пабудаваны ёсць наш свет. Таму, на маё здзіўленне, у нядзельную раніцу найбольш пакупнікоў бачыў я ў ювелірнай краме. Як мне растлумачылі сябры, гэта менавіта сакавіцкі жаночы дзень упіхвае людзей у гэты магазін. А цэны, якія я там пабачыў, выклікалі не толькі маё здзіўленне, але і жах. Ого, ого — гэта самы найкарацейшы мой каментарый. Нічога дзіўнага, што за ювелірнымі вырабамі беларусы найчасцей ездзяць у Польшчу. А крамкі з золатам і серабром на Кавалерыйскім базары ў Беластоку пакуль не наракаюць на недахоп пакупнікоў.

Аднак самае важнае з гэтай паездкі для мяне адно: дай Божа, каб як найхутчэй паміж Польшчай і Беларуссю было як найменш візавых пытанняў.

**Яўген ВАПА**

**Свята жанчын, якое мы адсвяткавалі на мінулым тыдні, гэта таксама добрая нагода, каб прыгадаць менавіта тых жанчын, якіх дзеянні ўплываюць на лепшы вобраз Сакольшчыны. Самі яны жывуць на гэтай тэрыторыі, а іхняя праца прычыняецца да глыбейшага зразумення яе культурных і гістарычных асаблівасцей.**

# Кавалак жаночай Сакольшчыны



Ева Крыхняк

## *Ева Крыхняк*

Кніжка Евы Крыхняк „Асвета і культура яўрэяў Беласточчыны міжваеннага перыяду і яе знішчэнне ў час Другой сусветнай вайны" гэта першае выданне, прысвечанае яўрэйскай абшчыне Саколкі і ваколіц. Кніга змяшчае багаты ілюстрацыйны матэрыял. Надзвычай каштоўным з'яўляецца выкарыстанне шырокага выбару крыніц, якім пакарыстаюцца так прафесійныя гісторыкі, як і аматары мясцовай даўніны Саколкі. Ева Крыхняк — ураджэнка Саколкі, бібліятэкарка, кніжку выдала за ўласныя грошы.

— Можна сказаць, што з самага маленства ўва мне склаўся такі вобраз, што яўрэі былі добрымі людзьмі, з пашанай ставіліся да іншых, — кажа аўтарка кніжкі. — Хаця не было ўжо тады маёй бабулі, маці вельмі часта расказвала як яна, будучы яшчэ маладой дзяўчынай, перад Другой сусветнай вайною пільнавала яўрэйскіх дзяцей. Бабуля вельмі іх палюбіла і вельмі часта ў размовах з маці ўспамінала гэтую яўрэйскую сям'ю. Будучы дзяўчынкай, у бібліятэцы Пачатковай школы № 1 у Саколцы, у якой сёння працую, прыходзілася мне знаходзіць кніжкі пра Другую сусветную вайну. Асабліва шукала я інфармацыі пра жыццё яўрэяў. Так што можна сказаць, што гэтая тэма заўсёды ўва мне сядзела.



Ева Кулікоўская

## *Ева Кулікоўская*

Трансгранічны праект „Шляхам Тызенгаўза" паўстане за грошы з Еўрасаюза. Праект гміны Саколка і Гародні кваліфікаваны для трансгранічнай праграмы „Польшча-Беларусь-Украіна". Дафінансаванне з боку Еўрасаюза гэта амаль два мільёны еўра.

Падпісанне дамоў, якое прайшло 3 студзеня 2018 года ў Беластоку, было папярэджана сустрэчамі і размовамі ўлад абодвух гарадоў.

Мяжа, паводле бургамістр Евы Кулікоўскай, не можа перашкаджаць у кантактах і супрацоўніцтве. На яе думку, Саколка, як прыгранічная гміна, абавязана шукаць сваіх шанцаў на развіццё менавіта ў супрацоўніцтве з найбліжэйшымі суседзямі.

— Калі ідзе пра кантакты з Беларуссю, яны небывалыя, — запэўнівае бургамістр. — Цягам года ўдалося нам наладзіць шэраг кантактаў. Таму разлічваем на іх фінансаванне з праграмы „Польшча-Беларусь-Украіна", але таксама разлічваем на сродкі з праграмы „Польшча-Літва-Беларусь".

Бургамістр Саколкі падкрэслівае адначасова, што для горада адной з галоўных мэт з'яўляецца цеснае супрацоўніцтва з суседняй Гародняй. Таму цягам 2016 года адбываліся сустрэчы з уладамі абодвух гарадоў, якія мелі на мэце ўдакладненне планаў па супольных праектах. Кульмінацыйная сустрэча прайшла 22 снежня ў Саколцы, у час якой прадстаўнікі гарадской управы Гародні падпісалі апошнія дакументы праектаў, якія маюць быць рэалізаваны пры фінансавай падтрымцы Трансгранічнай праграмы „Польшча-Беларусь-Украіна". Паводле канцэпцыі, прыгранічныя рэгіёны гэтых трох краін лічацца як адзін супольны абшар падтрымкі — быццам бы не існавала мяжа Еўрасаюза.



Марыя Сарасек

За грошы з Еўрасаюза, між іншым, будзе адрамантавана камяніца ў Саколцы, дзе паўстане культурная пляцоўка, прысвечана Тызенгаўзу. Падобны цэнтр паўстане ў Гародні. Паводле планаў мэра горада, будзе тут таксама працаваць кавярня пад назвай „Саколка".

## *Бэрнарда Росць*

Бэрнарда Росць — адна са славутых янаўскіх ткачых. Ткацкае майстэрства ў яе сям'і перадавалася з пакалення ў пакаленне. Аднак падляшскія ткачыхі сваімі ведамі дзеляцца таксама з гасцямі з Японіі. Янаў і Шацілоўку наведала група з сямі асоб з мэтай прыняць удзел у майстар-класах па ткацкай справе. Ідзя належыць японцы Ізумі Фуяіта, якая жыве ў Польшчы і ўжо ад шасці гадоў супрацоўнічае з янаўскімі ткачыхамі. Да гэтай пары ў Японіі прадала яна каля дзвюх тысяч тканін з Сакольшчыны. Зацікаўленасць была настолькі высокай, што вырашыла яна арганізаваць майстар-класы ў Польшчы. Тыя вялі янаўскія ткачыхі Тарэса Прызмонт і менавіта сёлетняя стыпендыятка Маршалка Падляшскага ваяводства Бэрнарда Росць. Двухасноўным ткацтвам цікавяцца не толькі госці з далёкіх краін. Гэтай формай мастацтва пачалі цікавіцца і маладыя людзі, якія стараюцца вывучыць сакрэт пераплятання нітак на старых ткацкіх кроснах. Бэрнарда Росць навучыла сваю дачку працы на кроснах, тая ўжо пасля года стала рабіць і прадаваць свае дываны. Аднак спадарыня Росць не абмяжоўваецца толькі да вырабу дываноў на кроснах. Апошнім часам стала рабіць жаночыя сумкі з традыцыйнымі сакольскімі ўзорамі.



Бэрнарда Росць

## *Марыя Сара9сек*

Марыя ўжо дваццаць гадоў жыве ў Саколцы. Кінула жыццё ў Варшаве. Не шкадуе. Падкрэслівае, што вельмі многа атрымала для сябе.

— Жывучы ў Варшаве, я не ведала, што гэта сувязь між жанчынай а мужчынам. У Саколцы нам хапала часу на размовы, шпацыры.

Марыя Сарасек з'яўляецца жонкай выдатнага сакольскага мастака Віталіса Сарасека. Менавіта яна была для свайго мужа інспірацыяй, якая натхняла яго да стварэння новых карцін.

Яе прадзед быў уласнікам саляных капальняў у Румыніі. Адгэтуль сям'я пераехала ў Аўстра-Венгрыю. Дзед, доктар юрыдычных навук, апынуўся ў Лодзі. А ўжо бацькі Марыі, хаця пасля Варшаўскага паўстання збеглі ў Лодзь, пастаянна жылі ў Варшаве. Марыя працавала ў Доме культуры на Старым Месце. Тут, дзякуючы сяброўцы, пазнаёмілася з Віталісам Сарасекам.

— Маёмасць маёй сям'і была знішчана бальшавізмам і войнамі. Яны адчувалі сябе такімі абрабаванымі. Магчыма таму заўсёды я так добра сябе адчувала сярод мастакоў.

Пры камуністычнай Польшчы Марыя бывала ў культавых месцах Варшавы, кабарэ, студэнцкіх клубах. Трапіла ў кампанію артыстаў. Разлічвала, што ў сучасных абставінах у разбурэнні бар'ераў і прадузятасці першынствавала асяроддзе мастакоў. Яны, хаця тагачасная ўлада, якая ў кожнай сферы жыцця, нават самай інтымнай, хацела ўсіх падпарадкаваць чырвонай ідэалогіі, у сваім асяроддзі ўмелі адчуваць сябе свабоднымі. Марыя, калі пазнаёмілася з Віталісам, яшчэ мацней звязалася з асяроддзем варшаўскага авангарду.

Хатка па вуліцы Марыяньскай не пасуе ўжо да гарадскога краявіду Саколкі. Драўляная, памалявана чырвонай фарбай здаецца быць яшчэ меншай сярод двухпавярховых бетонных блокаў. Усё гэта, чым пагарджала Марыя, што хацела пакінуць у Варшаве, цяпер прыйшло і сюды, у Саколку. Аднак клімат невялікай хаткі, які ствараюць даўнія прылады і вясковая мэбля, каляровыя макаткі, карціны Віталіса і нязменныя ад 20 гадоў погляды Марыі, робяць гэтае месца авангардным на фоне Саколкі.

Тэкст і фота
**Улі ШУБЗДЫ**

## Драўляныя дамы больш свойскія

8 сакавіка гэтага года пацікавіўся я драўлянымі дамамі ў дзвюх вёсках ля Белавежскай пушчы — у Заблотчыне (яна налічвае 65 жыхароў) і ў Мінкоўцы (у ёй пражывае 20 чалавек) Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета. Абедзве яны пры павятовай асфальтавай дарозе з Падляўкова ў Нараўку. У Заблотчыне 33 дамы, у тым ліку 22 драўляныя і ў Мінкоўцы 14 дамоў, у тым шэсць драўляных. У адной і ў другой вёсцы ёсць апусцелыя драўляныя хаты — сумныя і пачарнелыя. Яны, па ўсім відаць, нікому непатрэбныя і ўсімі забытыя. Няма каму імі заняцца?

У Заблотчыне прыгожых драўляных хат сама менш дзесяць, а сярод іх, між іншым, хаты Яўгена і Ліліі Валкавыцкіх (яны настаўнікі-пенсіянеры і ўжо шмат гадоў займаюцца агратурызмам) ды Галіны Вяжхоўскай (яна старшыня Таварыства агратурыстычных кватэр у Нараўчанскай гміне). Пенсіянеры (іх на вёсцы зараз найбольш) маюць свабодны час і аднаўляюць ды ўпрыгожваюць свае дамы: перакрываюць іх, ашалёўваюць, малююць. У Заблотчыне прыгожа выглядае адрамантаваная і памаляваная драўляная святліца. Але, коратка кажучы, яна ёсць і гэта ўсё. Цяпер штосьці пра актыўных жанчын не чуваць. А раней было, было.

У Мінкоўцы асабліва дзве задбаныя прыгожыя драўляныя хаты. Яны ашаляваныя. Мне спадабалася хата ў пачатку вёсачкі, калі выедзем з высокага лесу — асабліва яе архітэктура і цёплы жоўта-аранжавы колер. Вельмі люблю такія хаты. Усё тут такое простае, свойскае, мілае. Усе гэтыя вясковыя хаты абгароджаныя частаколам або драцяной сеткаю. Люблю, калі яшчэ каля хат ёсць кветкавыя агародчыкі і ля платоў растуць перш-наперш ліставыя дрэвы — бярозы, ліпы і клёны, кусцікі парэчак, малін і агрэсту або бэзу, чаромхі і язміну **(яц)**

## На час Вялікага посту

Штогод прыходзіць час Вялікага посту. Прыпамінаецца мне тады пакойная бабуля Манька Буйнюк, якая расказвала мне як калісьці пасцілі яе бацькі, а мае прадзеды Антон і Уляна Самасюкі з Чахоў-Арлянскіх. А мае прадзеды былі вельмі веруючымі праваслаўнымі людзьмі. У час Вялікага посту не елі рыбы і не пілі малака. Поснымі стравамі ў той час былі грыбы, квашаная капуста, кіслыя агуркі і, натуральна, бульба, але крашаная смажаным льняным алеем. Але не толькі елі посныя стравы, але і маліліся, хадзілі ў царкву. У час майго дзяцінства бацька строга забараняў слухаць музыку ці глядзець тэлевізар.

А што ў гэты час трэба нам адкласці на час пасля посту? Апошнім часам я глядзеў украінскі фільм, навінку з 2017 года. Фільм расказвае пра маладога мужчыну, які залежны ад інфармацыі: увесь час глядзіць на свой планшэт або падключаны да інтэрнэту тэлефон. Менавіта інфармацыйны шум, які нас ахінае штодзень, гэта тое, ад чаго маглі б мы адмовіцца на час Вялікага посту. Замест глядзець у тэлефон, больш гляньма ў кнігі, каб адарвацца ад інфармацыі з сеціва, з якой звязаны наш мозг. Нашы думкі чакаюць прасторы, якую мы мусім зрабіць у сваёй душы. Давайце адкрыем душу для блізкіх людзей, а не для бяздушнай тэхнікі, якая крадзе нам час, душэўны спакой. Інфагалізм — новая дрэнная прывычка часоў інтэрнэту, падобная на алкагалізм ці наркаманію. Замест таго загляньма ў храм. У час, калі ва ўсіх праваслаўных храмах чытаецца Канон Андрэя Крыцкага, нясецца нейкая рэфлексія над тым як сябе змяніць, udaсканаліць сваё жыццё. Безумоўна час Вялікага посту гэта час перамены, чакання на як пасля 46 дзён уваскрэсне Хрыстос, а з ім уся прырода ажыве і зазелянее на ўвесь свет. Вялікі пост гэта змена старога на новае.

**Юрка БУЙНЮК**

# Каштоўнасці
## Арлянскай гміны

1 лютага г.г. на сесіі арлянскай Гміннай рады радныя прынялі пастанову наконт доглядных прац пры помніку прыроды № 537 — дуб звычайны „Пётр” 24-метровай вышыні акружнасцю ў 410 сантыметраў у Паўлінове на прыватным грунце спадара Віктара Астасевіча; раней была гэта маёмасць Пятра Шульца і адтуль імя дуба. З заяўкай пра ліквідацыю сухіх галін, беручы пад увагу небяспеку ад іх для прабываючых побач яго людзей і суседніх нерухомасцей, звярнуўся ўладальнік маёмасці. Аб'ём работ быў акрэслены на аснове дэндралагічнай экспертызы, апрацаванай спецыялістам-лесніком. Доглядныя працы маюць гарантаваць уласцівы фітасанітарны стан дуба і бяспеку ў яго акружэнні. Згодна дзеючым прыродаахоўным законам працы па ахове помнікаў прыроды выконвае той орган, які ўстанавіў даную форму аховы, у гэтым выпадку арлянская Гмінная рада. З дуба будуць зняты засохлыя сукі і будзе расчышчана з кустоўя яго наваколле. Доглядныя працы павінны быць завершаны да канца бягучага года. Паводле меркавання спецыяліста, лесніка Эдварда Кляпацкага, дуб быў залічаны ў разрад помнікаў прыроды 5 кастрычніка 1987 года, яголы ўзрост ацэньваецца на амаль 250 гадоў. Некалькі гадоў таму ў гэтае дрэва ўдарыў гром, у выніку чаго ўзнікла трэшчына з вяршка аж да камля, сярэдняй шырынёй каля 10 сантыметраў. Зараз дуб нездаровы і ягонае аздараўленне мала верагоднае. Мяркуючы пра будучыню гэтага дуба і беручы пад увагу ягоны агульны стан, трэба падумаць пра знос ягонага ахоўнага статусу.

Непадалёк дуба „Пётр” на грунце сям'і Гольцаў, які раней таксама быў уласнасцю Шульцаў, расце іншы звычайны дуб „Ежы” 22-метровай вышыні акружнасцю ў 345 сантыметраў; яго імя ў гонар прафесара хірургіі Ежы Шульца.




http://www.testowy.minigo.pl/index.php/page/pawlinowo

### Спадчына сям'і Шульцаў

У Паўлінове памяць пра Шульцаў жывая, аднак з дбайнасцю пра іх спадчыну бывае па-рознаму. Шульцы, як згадваюць мясцовыя людзі, пры цары былі мясцовымі панамі. Яны выводзіліся з Нямеччыны; я мяркую, што маглі яны тут пасяліцца ў час прускага панавання пасля раздзелаў Польшчы. Былі яны багатымі людзьмі, у іх было звыш трохсот гектараў зямлі, іх поле было таксама ў наваколлі Галадоў і Кнарыд. Пётр Шульц, які быў уладальнікам маёнтка пры цары, меў праваслаўную жонку з Вільні; яны жылі наперамен у Вільні і ў Паўлінове.

Гісторыяй Шульцаў у Паўлінове цікавіўся я асабліва дваццаць гадоў таму. Мясцовыя пажылыя людзі помнілі розныя эпізоды з іх жыцця. Адна бабулька прыгадала, як у час жніва ці выкопкаў на працу ў маёнтак прыязджала рускае войска. Запамятала тое войска, бо тады ўся вёска патанала ў пыле пасля праезду кавалерыйскага атрада.

Уладзімір Талочка, пенсіянер, які яшчэ ў пачатку бягучага стагоддзя апекаваўся апусцелым уладаннем Шульцаў, расказаў мне за сваім цесцем, які быў у Пятра Шульца парабкам, што ўладальнік маёнтка адзін на ўсю аколіцу меў радыёпрыёмнік і таму ведаў пра надыход вайны. Нічога не гаварачы мясцовым людзям, спакаваў свае рэчы на воз і выехаў у Цехановец, дзе жылі ягоныя сваякі. Калі ў 1939 годзе ўвайшла Чырвоная Армія і на Бугу ўсталявалася граніца, многія людзі ноччу пераходзілі не на нямецкі бок. Многія падаваліся ў Варшаву, у іх ліку і Шульцы.

Сын Пятра Шульца, Ежы, пазнейшы прафесар хірургіі, а тады афіцэр у званні паручніка, пасля тайком яшчэ за нечым вярнуўся ў Паўлінова. Бадай прыходзіў па закапаныя бацькам каштоўнасці і нешта з сабою забраў. Невядома, што гэта было, але, відаць, было важнае, калі дзеля гэтага рызыкаваў жыццём. Ежы Шульц працаваў у Варшаве, памёр у 1996 годзе. Пахавалі яго ў Паўлінове побач магіл сямейнікаў каля мураванай капліччкі. На ягонай магіле паставілі сціплы бярозавы праваслаўны крыж. Як сказаў мне сёння 87-гадовы Уладзімір Талочка, бярозавы крыж нетрывалы, стаіць ён каля чатырох гадоў; восенню 2017 года спадар Талочка чарговы раз сам выканаў і паставіў на магіле новы бярозавы крыж, а ўсяго мяняў іх хіба каля шасці разоў.

Участак могілак быў уласнасцю сям'і Шульцаў. Як сказаў мне спадар Талочка, пры цары вясковых людзей з Паўлінова хавалі на могілках у суседніх Чахах-Забалотных. Пасля Шульцы згадзіліся, каб на іхніх могілках хавалі вясковых пакойнікаў з Паўлінова; карыстаецца імі праваслаўны прыход.

Мураваная каплічка, дзе пад падлогай знаходзяцца магілы сямейнікаў Шульцаў, з'яўляецца помнікам архітэктуры, турыстычнай цікавінкай, аднак патрабуе грунтоўнага рамонту. У час, калі на абнаўленне помнікаў можна атрымаць датацыю (думаю, што дапамагла б тут і арлянская Гмінная ўправа), гэтак як у праваслаўным Шчытоўскім прыходзе абнавілі помнік каталіцкага святога Яна Непамуцкага ў Шчытах, то ў Паўлінове прагрэсу не відаць. Тут хочацца прыгадаць словы Францішка Білгарайскага (паводле «Кансерватарскага бюлетэня Беластоцкага ваяводства» за 1995 год, с. 39): „Jaka to powszechna wada jest w kraju naszym, że nie umiemy szanować gustu ojców naszych. Wolimy, żeby zgniło, aniżeli żeby w porządku zachowanym zostało”.

Цікавіўся я справай каплічкі ў арлянскай Гміннай управе. Даведаўся няммнога, толькі тое, што настаяцель прыхода ў Вульцы-Выганоўскай хадайнічаў за дафінансаваннем на яе рамонт. Але як справы маюцца, то ў Гміннай управе не ведаюць, бо гэта не гмінная ўласнасць.

Ежы Шульц меў дзве дачкі: Анну — музыку і Багумілу — біёлага. Калісь спадар Талочка размаўляў з імі. Гаварылі, што ў будучыні хочуць упарадкаваць запушчаныя магілы, каб калісь, як настане адпаведная пара, спачыць разам з сямейнікамі. Зараз ад спадара Талочкі даведаўся я, што адна дачка ўжо не жыве, пахавалі яе ў Варшаве. На панадворку Талочкі здаўна складзены дочкамі нейкія матэрыялы на рамонт каплічкі, цэглы і бляха. На жаль, пра рамонт каплічкі, мабыць, не ўдалося ім дамовіцца з настаяцелем.

Ежы Шульц быў высакародным чалавекам і прадбачлівым. У 1970-х гадах хацеў здзейсніць сваёй бацькаўшчыне добры ўчынак. Ён апрацаваў праект ландшафтнага парку ў даліне ракі Нурэц у наваколлі Паўлінова. Са сваімі планамі абіваў парогі беластоцкіх улад, але нічога там не дабіўся; гэтак жа і тадышнія ўлады Арлянскай гміны паставіліся да прафесарскага праекта абыякава. Каля 2000 года лугі на Нурцы каля Паўлінова былі ўжо запушчаны, а ў краіне ўзніклі абшары NATURA-2000 — набор ахоўных абшараў на тэрыторыі краін Еўрасаюза. Мэтай вылучэння гэтых абшараў з'яўляецца ахова каштоўных у прыродным сэнсе кампанентаў біялагічнай разнастайнасці ў еўрасаюзных краінах. На тэрыторыі Арлянскай гміны ўзніклі два абшары, ахопленыя праектам NATURA-2000: абшар асаблівай аховы птушак у даліне верхняга Нурца і ўстой у даліне верхняга Нурца. Быццам здзяйсняецца ідэя прафесара Шульца з 1970-х гадоў. Ён, народжаны тут, ведаў, што можа быць добрае Арлянскай зямлі і пражываючым тут людзям. І прыкра, што не ўшаноўваем належным чынам памяці пра Шульцаў...

Арлянская гміна распаложана ў межах функцыянальнага абшару Зялёных лёгкіх Польшчы паміж ключавымі зонамі міжнароднага значэння: Далінай верхняй Нарвы, Далінай ніжняга Буга і Белавежскай пушчай. Гэтыя абшары дапоўнены экалагічнымі калідорамі дзяржаўнага значэння. Адным з іх з'яўляецца даліна ракі Нурэц, якая ахоплівае паўднёвую частку Арлянскай гміны з навакольнымі вёскамі Паўлінова, Чахі-Забалотныя і Вулька-Выганоўская. Таксама даліны Арлянкі і Белай з'яўляюцца важнымі экалагічнымі калідорамі.

Помнік прыроды дуб „Пётр” за нейкі час напэўна счэзне з краявіду; паводле спадара Талочкі дуб не мае 240 гадоў, ён малодшы, садзіў яго Шульц, сам ездзіў па саджанцы. Аднак на тэрыторыі Арлянскай гміны растуць і іншыя буйныя дрэвы, не занесеныя ў спіс помнікаў прыроды, напрыклад вялікі дуб акружнасцю за 250 сантыметраў перад школай у Орлі, а ў г. зв. старым садзе ў Орлі — вялікая ліпа акружнасцю за 400 сантыметраў ды некалькі каштанаў. Некалькі гадоў таму я, як радны, хадайнічаў, каб і яны трапілі пад кансерватарскі нагляд, аднак беспаспяхова. Гэтак не павінна быць і я зноў аднаўлю хадайніцтвы.

**Міхал МІНЦЭВІЧ**

# Пачаткі 2018 года

І так ад студзеня распачаўся новы кругаварот падзей, з новымі жаданнямі, спадзяваннямі, прагнозамі ды прароцтвамі. Па студзені аднак судзіць, якім будзе ўвесь год, цяжка. Студзень больш святочны, як працоўны месяц. У ім проста чарадою ідуць важныя гадавыя святы: Новы год, Раждаство Хрыстова, Стары новы год, Вадохрышча і іншыя меншыя святы. І вось за гэтымі сакральна-застольнымі рытуаламі чалавек проста не ўспявае разабрацца ў сваёй сітуацыі і ў сітуацыі сваёй сям'і, калі такую мае. Наглядаецца таксама пэўны застой і ў дзяржаўнай, і ў міжнароднай актыўнасці ды палітыцы.



❖Васіль САКОЎСКІ

І ўсё-такі наша дзяржаўнае кіраўніцтва так размахнулася ў пабудове нашай краіны, што і ў моцна святочным студзені ў іх проста кіпела работа. Адбылася маштабная перастройка нашых міністэрстваў. Адны міністэрскія чыноўнікі былі павышаны, другія паніжаны, трэція аказаліся і зусім непатрэбнымі. У гарачцы перастройкі маглі зняць з высокай пасады і такіх чыноўнікаў, якіх, здавалася, ніхто зняць не адважыцца. І нічога не сталася, наша краіна надалей стаіць на тым самым месцы, што і дасюль стаяла...

Наступнай важнай студзеньскай падзеяй было ўрачыстае святкаванне дня нараджэння Адольфа Гітлера... Так, так, гэтага ката і забойцы многіх мільёнаў у нічым непавінных людзей. Святкавалі яго нашы фашысты, рознай масці нацыяналісты, прадстаўнікі іншых змрочных сіл зла і беззаконня. Святкавалі па ўсёй сваёй фашысцкай форме і з усімі атрыбутамі, рытуаламі і гучнымі гайлямі. І ўся гэтая ўзнёслая ўрачыстасць адбылася ў краіне якая — паводле гэтага ж Гітлера — першая мела знікнуць з аблічча зямлі і дзе яшчэ дасюль густа стаяць панурыя помнікі фашысцкіх фабрык смерці... Вось такія парадоксы. З аднаго боку невінаватыя людзі столькі ўжо часу мусяць апраўдвацца перад цэлым светам за гітлераўскія помнікі смерці, а іншыя польскія людзі пампезна рыхтуюць і святкуюць дзень нараджэння Гітлера, проста koniec świata...

Не можа, канешне, не трывожыць усіх нас актуальнае супрацьстаянне паміж амерыканска-натаўскім альянсам і Расіяй. Яно прыбірае шторазь новыя формы і выразна абвастраецца. Калі спачатку абодва бакі сапернічалі ў асноўным у эканамічнай і мілітарнай сферах, то з прыходам да ўлады Дональда Трампа проста кантакты на ўсіх сферах абрываюцца. Нават у, здавалася б, міралюбівым спорце. Гэта нядобры і небяспечны стан паміж ядзернымі дзяржавамі. Хоць і надалей прабуюць яны гаварыць аб раўнавазе сіл ды парытэтах, але кожны бок стараецца перахітрыць, ашукаць саперніка. І часам пахваліцца новай, магутнай знішчальнай сілы зброяй. Ой, нядобры гэта прагноз на будучыню і мірнае суіснаванне. Падобныя спаборніцтвы ніколі да дабра не вялі. Могуць і цяпер нарабіць нам кашы, не дай Божа...

Змаганне за раўнавагу сіл, за парытэты гэта не нашых часоў выдумка і не сучасных палітыкаў. Яны заўсёды існавалі — і заўсёды, на жаль, былі войны, штораз страшнейшыя. І былі канешне, ужо даўно разумныя людзі, якія дасканала ведалі цану гэтым парытэтам, і адкрыта гаварылі аб іх. На пераломе васямнаццатага і дзевятнаццатага стагоддзяў жыў, напрыклад, Уільям Блейк, англійскі паэт і мастак. Выйшла некалькі кніг яго паэзіі. Адна з іх называлася «Прароцкія кнігі», якую пераклаў на рускую мову Самуіл Маршак. А ў ёй быў змешчаны прароцкі верш, які вельмі пасуе да нашага звар'яцелага часу. У ім гаворка ідзе пра тое, да чаго вядзе змаганне за ваенную раўнавагу сіл ды парытэты. Гаворыцца таксама, пры якіх умовах наступіць нарэшце поўная раўнавага сіл. А значыць, наступіць канец спрэчкам і войнам. Вось ён:

Настанет день, свершится правый суд,
Уравновесятся весов военных чаши,
Когда всех ваших наши перебьют,
А наших — ваши...

Вось вам горкая праўда, да якой з такім імпэтам пруць некаторы дзяржавы і іх неразумная ваеншчына...

Падсумоўваючы два першыя месяцы гэтага года, адразу відаць, што пачаўся ён нам з немалымі клопатамі. Былі, канешне, больш удачныя справы. Але былі і менш удачныя ці зусім ганебныя. Адбылася, напрыклад, вялікая перастройка нашых міністэрстваў. Прыйшлі на працу новыя людзі ці проста памяняліся сваімі месцамі, але як яны будуць выконваць сваю работу, сказаць цяжка. Увесь год і падобна тры тэрміны паўнамоцтваў перад імі, вось і пабачым. Калі судзіць па ўзнагародах, якія яны нядаўна засталі, то дасюль працавалі яны вельмі добра... Моцна ганебнай справай з'яўляецца, спамянутае ўжо мною, урачыстае святкаванне дня нараджэння Адольфа Гітлера... Да нядобрых спраў трэба далічыць і тое, што пачалі раптам псавацца ўзаемаадносіны паміж Польшчай з аднаго боку, а Ізраілем і Злучанымі Штатамі Амерыкі з другога боку. Відаць, прабегла між гэтымі краінамі чорная кошка... У нашых альпіністаў-гімалайцаў таксама не найлепей пайшлі справы. Адзін з іх ужо загінуў, іншыя пакалечаныя, памарожаныя мерзнуць дзесьці там высока. А вяршыня К-2 проста як фіга горда глядзіць на іх зверху не здабытая. І мае рацыю вяршыня, бо чаго ж лезці насілу туды, дзе вас не хочуць, дзе бароняцца перад чалавекам, падобна, вянцом прыроднага тварэння і разбуральнай сілай яго. Ужо ж і так нямала нанёс ён шкоды зямлі, вадзе і космасу...

І яшчэ на адну актуальную справу хачу звярнуць вашу ўвагу ў маіх сумных разважаннях — на зімовую Алімпіяду ў Паўднёвай Карэі і ўвогуле на спорт. Нядобра дзеецца цяпер у спорце, бо важнейшую ролю іграюць у ім грошы, часта брудныя, і палітыка, якая бадай ніколі чыстай не бывае. А сапраўдныя спаборніцтвы павінны быць чыстымі і справядлівымі. Яны павінны мірыць, яднаць, умацоўваць згоду і дружбу. А часта бывае наадварот, сеецца і там нязгода, разлад, канфлікты, абмежаванні, прападзі яны пропадам. Што мы выразна і бачым на Алімпіядзе...

# Грамадска-палітычная сітуацыя на Беласточчыне ў 1944-1956 гадах

1 ☞ працяг

вайны, якім беларусы лічылі пераезд на пастаяннае жыхарства ў гарады. Калі на Беласточчыне пачалася калектывізацыя, вялікая задоўжанасць вясковых сем'яў рабілася падставай для шантажу і ўцягвання ў калгасы тых нават гаспадароў, якія былі супраць калектывізацыі.

— У міжваенны перыяд складана было знайсці беларусам з вёсак працу ў гарадах. Пасля вайны 16-17-гадовыя хлопцы ўступалі ў міліцыю, органы бяспекі. Жыхары беларускіх вёсак станавіліся вайсковымі, чыноўнікамі, на што не маглі разлічваць у міжваенны час, сталі працаваць на прадпрыемствах. Пазней міграцыя вясковых беларусаў у гарады стала масавай, чаго рэзультатам з'яўляюцца пустуючыя вёскі, — гаварыў прафесар Яўген Мірановіч.

Дакладчык расказаў таксама пра беларускае школьніцтва на Беласточчыне, якое пачало дзейнічаць ужо ў верасні 1944 года. Калі канчаткова вырашылася, што Беласточчына будзе ў саставе Польшчы, дзейнасць беларускамоўнага школьніцтва на Беласточчыне была спынена ў 1946 годзе. Пачало яно масава аднаўляцца з 1949 года, а сігнал для такіх дзеянняў прыйшоў з Савецкага Саюза.

— Толькі ад чэрвеня да верасня 1949 года арганізавалася на Беласточчыне 39 беларускіх школ, у якія былі накіраваны дзеткі праваслаўнага веравызнання. У 1956 годзе пачала выдавацца «Ніва» і было заснавана Беларускае грамадска-культурнае таварыства, — прыгадаў сабраным прафесар Яўген Мірановіч, якія пазней адказваў на пытанні з залы.

❖Тэкст і фота
Аляксея МАРОЗА

# Беларусы ў ЗША

Такую назву мае кніга Вітаўта Кіпеля, якая з'явілася ў 2017 годзе ў выдавецтве «Кнігазбор». Гэта выданне другое дапоўненае і дапрацаванае. Навуковым рэдактарам з'яўляецца Наталля Гардзіенка.

Аўтарам гэтай піянерскай (у амерыканскіх традыцыях) кнігі з'яўляецца дырэктар мала каму вядомай раней на Бацькаўшчыне ўстановы Беларускі інстытут навукі і мастацтва (БІНіМ) у Нью-Йорку доктар Вітаўт Кіпель. Гэта ў наступныя дзесяцігоддзі паспаліты чытач будзе пазнаваць спадара Вітаўта ў яго шматлікіх разнастайных іпастасях: даследчыка, навукоўца, палітычнага і грамадскага дзеяча, бібліёграфа, апантанага кніжніка, захавальніка гістарычнай памяці не толькі пасляваеннай беларускай Амерыкі, але і даваеннага Менска...

Пасля дэбюту на Бацькаўшчыне кніга «Беларусы ў ЗША» была выдадзена ў 1999 годзе на англійскай мове ў акадэмічным выдавецтве University Press of America. Для гэтага перавыдання за аснову ўзяты пераклад Сяргея Шупы...

Трэба адзначыць, што Вітаўт Кіпель (нар. 30 мая 1927 г. у Менску) у 1945-1948 гг. у Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы ў Заходняй Нямеччыне займаўся скаўтынгам. Паступіў на медыцынскі факультэт Цюбінгенскага ўніверсітэта, а ў 1953 г. закончыў Лювэнскі ўніверсітэт (Бельгія) з дыпломам геолага, а ў 1955 г. атрымаў ступень доктара мінералогіі.

Быў заступнікам старшыні Саюза беларусаў Бельгіі. У 1955 г. пераехаў у ЗША. Працаваў у навукова-вытворчых фірмах, у Балтымарскім універсітэце (штат Марыленд). З 1959 па 1985 гг. займаў розныя пасады ў Даследчым цэнтры навукі і тэхналогіі Нью-Йоркскай публічнай бібліятэкі (у тым ліку і на пасадзе выканаўчага дырэктара). У 1960-1963 гг. вучыўся ў Рутгерскім універсітэце (Нью-Джэрсі), дзе атрымаў яшчэ адзін дыплом па спецыяльнасці бібліятэказнаўства. Лідар беларускага рэспубліканскага руху. Старшыня Федэрацыі беларускіх рэспубліканскіх клубаў (1972-1982 гг.). У1974 г. абраны на старшыню Рэспубліканскай федэрацыі штата Нью-Джэрсі. Рэдактар газеты рэспубліканцаў штата Нью-Джэрсі «Heritage Review». Заснавальнік і дырэктар беларускіх фестываляў у Нью-Джэрсі (1978-1982 гг.). Узнагароджаны ў 1975 г. медалём Паняволеных народаў Эйзенхаўэра. Ад 1982 г. дырэктар БІНіМ. Нягледзячы на такі шаноўны ўзрост, доктар Вітаўт Кіпель захоўвае цікавасць да падзей у Бацькаўшчыне і надзвычай плённа працуе. Гэтая надзвычай цікавая кніга таму яскравы доказ.

Падрыхтоўка другога выдання заняла каля двух гадоў супольнай працы самога Вітаўта Кіпеля, архівіста Лявона Юрэвіча і даследчыка беларускай эміграцыі Наталлі Гардзіенкі. Кніга выйшла ў серыі «Бібліятэка Бацькаўшчыны». Кніга пакуль яшчэ ёсць у кнігарнях Беларусі.

**Аляксей ШАЛАХОЎСКІ**
гісторык культуры, журналіст-фрылансер

# Як заўсёды Славамір не падвёў

Новае Ляўкова Нараўчанскай шміны Гайнаўскага павета — вёска-вуліцоўка. Ну, 20 хат ёсць на калёніі. Солтыс паклапаціўся і вёска мае тратуар. Клопат толькі зімой — нешматлікія жыхары змятаюць снег з тратуара. Ляжыць ён, то няхай сабе ляжыць. Такая там бяда. Прыйдзе вясна і снег зыдзе. А вось ужо на двары крочыць сакавік, а снегу яшчэ прыбывае і прыбывае. 2 сакавіка г.г. солтыс Новага Ляўкова адгарнуў снег з тратуара каля сваёй хаты. Суседзі не пайшлі яго следам. Ну, можа перашкодзіў крыху мароз. А мо была неахвота і абыякавасць. Зараз мы сталі такія вельмі выгадныя. Носа не высунем з хаты на вуліцу. Быў я ў Нараўцы. Тут жыхары пазмяталі снег з тратуараў. Значыць, можна.

З сакавіка на ўласны малы трактар са снегаачышчальнікам зноў сеў новаляўковец Славамір Смольскі. Ён згарнуў белы пух на ўсёй даўжыні тратуара. І назаўтра раніцай — у нядзелю 4 сакавіка г.г. — новаляўкоўскія жанчыны пайшлі ў царкву ў Старое Ляўкова па расчышчаным тратуары.

Спадар Славамір, дзякуй табе яшчэ раз за дзейсную дапамогу ў расчыстцы вясковага тратуара ад замарожанага снегу. Дадам, што ў „Ніве" № 5 ад 4 лютага г.г. быў мой допіс пад загалоўкам „Солтыс дзякуе". Дзякаваў я руплівцу Слаўку Смольскаму.

**(яц)**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Роднае слова на кожны дзень года!




Калі перасякаем мяжу з Беларуссю, пабачым банеры з рэкламай беларускай мовы. Усё гэта дзіўна. На здаровы розум, у Беларусі ўсе павіны ведаць мову тытульнай нацыі краіны.

Аднак значная частка беларусаў перайшла на рускую мову і часам шкадуе такога рашэння. Асабліва моладзь, для якой вывучэнне роднай мовы — важны і патрэбны выклік, асабліва для тых, хто разумее пытанне тоеснасці.

З думкай пра такіх людзей працуе грамадска-культурніцкая кампанія «БУДЗЬМА БЕЛАРУСАМІ! ». Адной з іхніх прапаноў з'яўляецца каляндар на 2018 год з малюнкамі і словамі на кожны дзень. Яго загаловак гучыць як загад і лозунг: «Не маўчы па-беларуску».

Кожны месяц пачынаецца з народнай прыказкі «з сабакам». У студзені прыказка прымеркаваная да свята Каляд: «Першы блін — сабаку». У ёй зафіксаваныя старажытныя павер'і беларусаў, якія ўяўлялі дух продкаў у вобразе сабакі. Продкі прыходзілі на калядную вячэру, таму першы блін абавязкова трэба было вынесці на двор для сабакі. Людзі верылі, што такі «пачастунак» паспрыяе ў надыходзячым годзе. Калі ідзе пра бягучы месяц — сакавік — тут таксама народная прыказка: «Добры сабака лепшы за ліхога чалавека».

Тут усё проста і ясна. Таксама малюнкі абвяшчаюць надыход вясны і Свята 25 Сакавіка. Згодна з прыродным кругагодам, у чэрвені шмат кветак і прылад, звязаных з адпачынкам. Частку малюнкаў, як «сінюю панчоху ва ўзоры» трэба пamaляваць. Пры гэтым месяцы таксама народная прыказка: «Хто лісліві, той кусліві!».

Адным словам: каляндар вучыць нас беларускіх слоў і дзякуючы яму пазнаем характар народа. Гэта жывая ігра, якая ніколі не заяршаецца...

Паглядзіце самі:

Кампанія «Будзьма беларусамі!» працуе дзеля паглыблення культурнай ідэнтычнасці беларусаў на глебе павагі да свайго народа, яго гісторыі, культуры і мовы. Праз свае праекты яна даносіць, што беларуская культура багатая на традыцыі, а мова — якасны сродак камунікацыі. Ідэю календара прыдумала Дар'я Мандзік, а ўкласці яе ў элементы гэтай адукацыйнай ігры дапамог ёй Анатоль Лазар. Каляндар можна выйграць у зорчыных конкурсах.

**(гак)**

**Генадзь Бураўкін**

## Край мой

*Не залаты зусім, не срэбны,*
*Быў на табе заўсёды ўбор*
*Звычайны самы, самы зрэбны:*
*Зялёны луг ды сіні бор,*
*Каля дарогі жыта ў полі,*
*Вярба старая ля ракі,*
*Ды ў жоўтым восеньскім прыполе*
*Рабін даспелых аганькі.*
*Ты не сляпіў вачэй.*
*Быў просты*
*Ва ўсе вякі твой родны ўзор:*
*Гаёў бялюткая бяроста,*
*Густы блакіт лясных азёр,*
*І лён, зусім, як неба,*
*СІНІ,*
*І ўсе ў рамонках берагі...*
*Мой беларускі, мой адзіны*
*Край, ад калыскі дарагі..*



Спектакль «Айцец Канстанцін Байко», Гайнаўка 11.03.2018 фота А.Мароз



Наталля Арсеннева

## Малітва

Магутны Божа! Уладар сусветаў,
Вялікіх сонцаў і сэрц малых!
Над Беларуссяй, ціхай і ветлай,
Рассып праменне Свае хвалы.
Дай спор у працы спакойнай, шэрай,
На хлеб штодзённы, на родны край.
Павагу, сілу, і веліч веры
У нашу праўду, у прышласць — дай!
Дай урадлівасць жытнёвым нівам,
Учынкам нашым пашлі ўмалот.
Зрабі свабоднай, зрабі шчаслівай
Краіну нашу і наш народ.

# Мой герой — беларус!

## Конкурс на 100-годдзе БНР

Дарагія сябры! Набліжаецца 25 Сакавіка — Свята Волі, дзень, які адзначаюць тысячы беларусаў у цэлым свеце. У нас, на Падляшшы ўкаранілася традыцыя святкавання. Пра свята гаворым на ўроках беларускай мовы і на школьных лінейках, у сям'і і на мастацкіх мерапрыемствах.

Каб годна і творча адзначыць сотую гадавіну абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі ў 1918 годзе, мы прыдумалі для вас святочны конкурс. Вашай задачай будзе напісаць твор на тэму:

**МОЙ ГЕРОЙ — БЕЛАРУС!**

Падумаеце — хто такі можа стаць вашым героем?

Перад вамі шырокі выбар і неабмежаваныя магчымасці:

— вашым героем можа стаць тата, брат, мама, сястра, дзед, цёця, бабуля ці іншы сваяк або любы знаёмы...

— настаўнік, мастацкі інструктар, апякун праекта...

— гістарычны персанаж, пісьменнік, грамадскі дзеяч, журналіст, мастак...

— ваш любімы літаратурны герой...

— ваш сябра або сімпатыя...

Конкурсныя працы можаце напісаць у форме верша, апавядання або журналісцкіх жанраў — рэпартажа, фельетона, эсэ, інтэрв'ю.

Працы будуць ацэнены адмысловай камісіяй, якая назначыць супер файныя ўзнагароды — веласіпед, беларускія кніжкі і CD з беларускай музыкай, запрашэнне на журналісцка-мастацкія майстар-класы Сустрэчы «Зоркі».

Конкурсныя працы дасылайце да 1 мая 2018 года.

Конкурс прадбачаны для вучняў пачатковых школ і гімназій. Не адкладвайце задачу, пачніце думаць, рыхтавацца і пісаць ужо сёння.

**Ганна Кандрацюк**



Беларуская дыктоўка 2018 у Беластоку

(Байкі сярэднявечнай Арменіі)

# Мудрыя вараняняты

Паклікала варона варанянят і стала іх навучаць, асцерагаць перад небяспекай:

— Дзеткі мае, будзьце ўважлівымі, сцеражыцеся людзей. А калі пабачыце, што чалавек схіліўся, каб падняць камень, тады чым хутчэй хавайцеся або адлятайце...

Паківалі ў знак згоды вараняняты і пытаюць:

— Матуля, а што нам рабіць, калі чалавек ужо падняў з зямлі камень і трымае ў руках?

Варона каркнула ад задавальнення і кажа:

— Цяпер я спакойная за вас. Бачу, не прападзяце ўжо, мае дзеткі, на гэтым свеце!

*(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*

## УВАГА КОНКУРС! № 11-18

Не званочак,
А звініць.
Ног не мае,
А бяжыць.
Як гарэза,
Скок ды скок:
Ён вясёлы...
Р..... (Мікола Чарняўскі)

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 25 сакавіка 2018 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадку № 7-2018: глобус. Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі Каміла Бушко, Юстына Высоцкая, Марыя Сідарук, Дам'ян Карнілюк, Магдалена Каліноўская з Бельска-Падляшскага, Марта Петручук, Міхась Тапалянскі, Оля Кардаш з Нарвы, Караліна Кандрат, Мартына Лукша з Нараўкі. Віншуем!**

Міра ЛУКША

## Мурмелад

Котка Мурка наварыла
З ягад мармеладу,
Усіх дзетак запрасіла:
Смаката прынадная!

Хай частуюцца ўсе
Стравай адмысловай.
Хопіць лыжка або дзве —
Наясіся ўдоваль.

Нарабіла і ў запас
Гаспадынька ежы,
Слоічак чакае вас
На зімовы снежань.

Студзень, люты
– будзем жыць,
І ніхто не хворы:
Трыццаць слоічкаў стаіць
У Мурчынай каморы!

Як пазнаць, што дзе стаіць
На палічках веерам?
Усё там як мае быць:
«Мурмелад» наклеена.

# Польска-беларуская крыжаванка № 11-18

**Польска-беларуская крыжаванка № 11-2018**

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 7-2018:**

Апора, до, пір, брамка, скон, маша, амяла, абажур, Ас, аранж, гонта, на, какос. Маг, азбука, сон, на, ода, набат, рама, марак, мяжа, пацалунак, шарж, крама, Ас.

Узнагароды, наклейкі, выйгралі **Іаанна Нікіцюк, Магдалена Каліноўская, Магда Якубюк, Дам'ян Карнілюк** з Бельска-Падляшскага, **Мая Тапалянская** з Нарвы, **Аляксандра Мартыновіч, Наталля Харужая, Марта Зубрыцкая** з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку, **Мартына Лукша** з Нараўкі, **Віялета Смалюк** з Арэшкава. Віншуем!



# Калішняе жыццё

Як раней ладзілі догляд за дзецьмі з іншымі абавязкамі? Як бацькі і дзеці маглі правесці час разам? Як калісь давалі сабе рады з тыповымі дзіцячымі праблемамі? Якая мэбля і прадметы суправаджалі дзяцінства? І, нарэшце, якія цікавыя досведы ў старэйшых пакаленнях могуць знайсці для сябе сённяшнія бацькі? Гэтыя і іншыя пытанні, звязаныя з доглядам за дзіцём даўней і сёння сталі тэмай праекта «Паміж пакаленнямі: этнаграфія і спадчына». Сустрэча, прысвечаная даўняму дзяцінству «Ёсць што ўспомніць», спалучаная з выставай фотаздымкаў і фільмам, з'яўляецца вынікам праекта, праведзенага летам Асацыяцыяй «Этнаграфічная майстэрня» ў Гарадоцкай і Міхалоўскай гмінах. У мастацкай частцы ўбачыць можна было сцэнку «Адведкі» ў выкананні актыўных жанчын са Случанкі і ваколіц (гурт вясковых гаспадынь „Але Бабкі") ды выступленне капэлы „Хутар". Быў паказ нашэння дзяцей у хустках, фота-будка, фільм і іншыя, смакавітыя атракцыёны. Перш за ўсё вельмі багаты свойскі пачастунак, які падрыхтавалі жывучыя „алебабкі". Усё 24 лютага, у Гарадоцкім цэнтры культуры; раней быў паказ у Міхалове.



На сцяне капа-«дыван», даўно вытканая на ткацкім станку. Побач плецены кошык-калыска. Менавіта на гэтым фоне можна было зрабіць фотаздымак, з сябрамі ды лялькай Праксэдай. Праект «Ёсць што ўспомніць. Дзяцінства ў аповедах жыхароў Гарадоцкай і Міхалоўскай гмін" падводзіў этнаграфічны праект «Паміж пакаленнямі — этнаграфія і культурная спадчына», які быў рэалізаваны ў 2017 годзе Асацыяцыяй «Этнаграфічная майстэрня». Пазіруючыя асобы атрымлівалі адразу памятны здымак.



У ліпені і жніўні, каманда Асацыяцыі «Этнаграфічная майстэрня» наведала асобныя вёскі ў Міхалоўскай і Гарадоцкай гмінах на Падляшшы. Этнографы звярнуліся да прадстаўнікоў старэйшага пакалення, каб яны падзяліліся сваім вопытам і ўспамінамі, звязанымі з бацькоўствам, і, у прыватнасці, як даўней выглядаў клопат аб маленькіх дзецях. Сустрэчы прынялі форму гутаркі, у спалучэнні з праглядам сямейных здымкаў або аб'ектаў, звязаных з гэтай тэмай. Правялі дзясяткі інтэрв'ю з пажылымі людзьмі пра тое, як раней выглядаў догляд за дзецьмі.

Сабраны матэрыял можа стаць натхненнем для бацькоў, дызайнераў і рэжысёраў. Сустрэчы з жыхарамі гмін з'яўляюцца часткай праекта «Паміж пакаленнямі: этнаграфія і спадчына», які рэалізуецца Асацыяцыяй і суфінансуецца Нацыянальным культурным цэнтрам у рамках праграмы „Культура — Інтэрвенцыі 2017". Мэта заключалася ў тым, каб сабраць аповеды старэйшага пакалення ды знайсці ў іх рэкамендацыі, якія могуць быць карыснымі і для сучасных бацькоў. Сабраныя аповеды і фатаграфіі сталі асновай для стварэння экспазіцыі, фільма, серыі паштовак і цацак. Матэрыялы былі падрыхтаваны ў супрацоўніцтве з Майстэрняй кіно, фатаграфіі і гуку „Нязбодка" ў Міхалове ды праектанткамі і дызайнерамі: Каяй Носаль і Ганнай Врэнгай з ОНТА-студыі, Алёнай Трафімавай, Камілем Каральчуком і Міждысцыплінарнай групай даследавання дзяцінства Варшаўскага ўніверсітэта.

У Гарадоцкай гміне распыталі яны ў Меляшках, Случанцы, Белявічах, Падазеранах, Радуніне, Залуках, Падзалуках, Станцы Валілы і Гарадку. У выніку атрымалі цікавую зводку інфармацый пра дзяцінства некалькі дзесяцігоддзяў таму. У суботу ў вельмі марозны і снежны вечар шматлюдна сабраныя гледачы паглядзелі прэзентацыю, зробленую этнографкамі Аннай Бінькай, Каяй Койдэр і Міхалам Дэмскім ды фільм — запіс успамінаў дзяцінства на Падляшшы, пастаўлены Тамашом Вісьнеўскім п.з. «Калішняе жыццё». У холе Гарадоцкага цэнтра культуры былі павешаны 12 табліц са здымкамі і апісаннямі, кранаючымі розныя аспекты звязаныя з дзяцінствам, да стварэння якіх выкарыстаны праведзеныя гутаркі і старыя фатаграфіі. Можна было пагуляць цацкай, якая была распрацавана на аснове гісторый пра старыя гульні. Мерапрыемства дало магчымасць сустрэцца і пагаварыць са старэйшым пакаленнем маладым бацькам, дзецям і ўсім іншым асобам, зацікаўленым у тэме. Асабліва дзеці былі зацікаўлены тым, як гулялі іх дзяды і бацькі. «Качанне каляса» — качанне пячнога круга, гульня надзіманым свіным посікам як мячом — вось якія былі самыя файныя гульні вясковых дзетак. Дзеці ўмелі змайстраваць самі цацкі, якімі гулялі летам і зімой. Дызайнерская цацка, якую склалі на майстэрні, скансультаваная з найменшымі дызайнерамі — з ёю можна зрабіць многа чаго і дзяўчынкамі, і хлопчыкамі, і ніколі з ёю нянудна.



— Сустрэлі мы на гутарках мноства незвычайных людзей, — казала Анна Бінька. — І ўсім тым асобам, якія схацелі падзяліцца з намі сваім досведам, яшчэ раз вельмі дзякуем. Працавалі мы ў інтэрдысцыплінарнай групе. Былі сярод нас асобы якія займаліся даследаваннем, якія хадзілі па вёсках, шукаючы асоб, якія схочуць з намі размаўляць, і праектанты, і, вядома дзеці, якія на кожным этапе нашых дзеянняў памагалі ва ўзнікненні рэзультатаў нашых праектаў. Стараліся наведаць як найбольш мясцовасцей. Хадзілі мы па вёсках, шукаючы адважных людзей, якія згодзяцца расказаць нам сваю ўласную гісторыю. Не толькі мы размаўлялі, мелі мы нагоду таксама ўбачыць некаторыя прадметы, звязаныя з тым, як выглядала калішняе жыццё. І памяткі з мінулага — фотаздымкі. Некаторыя з іх дапамагалі прыгадаць мінулыя факты і рэчы. Прывезлі мы з вёскі вялікую калыску, якую можам убачыць на экспазіцыі і нават зрабіць пры ёй здымак. Распыталі мы пра дзяцінства асоб, якія цяпер маюць пяцьдзясят, шэсцьдзясят, семдзесят, восемдзесят гадоў. Некаторыя нарадзіліся перад вайной і ў час вайны, і тыя ўспаміны бываюць часам траўматычныя. Некаторыя з іх хутчэй расказвалі пра дзяцінства сваіх дзяцей, чым пра сваё. Расказы былі пра тое, як займаліся дзецьмі, як іх насілі, вазілі, як забіралі ў поле, як яны гулялі. Таксама пра групавыя гульні дзяцей, якія гулялі разам.

Гераіня фільма Валянціна Горбач з Ялоўкі на парозе сваёй хаты доўга расказвала пра сваё дзяцінства і дзяцінства сваіх дзяцей.

— Ай, калісьне жыце. І нашы дзеці хаваліся якось, і мы хаваліся. Ніхто там не раздумваў. Як малодшай была, то каровы былі, то свінні, ганялі іх... А цяпер як жывеш — устанеш рано, не маеш чаго рабіць. Што любіла есці, як была малая? Усё. Малако, сыр, бульва. Найбольш я любіла бульбяныя пляцкі, з кіслай смятанай. Цыбуля з алеем, часнык. А што для смакаты? На фэсце лізакі. Якіясь цукеркі. Але не было за што вельмі купіць. Гадаваліся мы ў бядзе. А цяпер што... У пяску мы гулялі. То сыплем, перасыпаем. У «клясы» на дарозе. Дзе там, каб якая нянька была. Малое кароў пасвіла... А «смочкі» якія былі — у льняную шматку нажуеш хлеба з цукрам, завяжаш, і малое смокча...

Капела „Хутар" з гэтай нагоды падрыхтавала рэпертуар, звязаны з тэмай дзяцінства і маладосці сабраных гледачоў. Смачнай кульмінацыяй сустрэчы былі смакотныя водары традыцыйных страў, якія выйшлі з працавітых і таленавітых рук гаспадынь — без якіх цяжка ўявіць сабе такі сямейны вечар. „Як па-свойску!" — цешыліся госці, уплятаючы цёплае случанскае смакоцце...

Кая Койдэр-Дэмская — псіхолаг і этнограф, зацікаўленая ў пытаннях, звязаных з выхаваннем дзяцей, першаснай сацыялізацыяй, уплывам культурных фактараў на ўспрыманні развіцця, патрэбы і чаканні дзяцей. Рыхтуе доктарскую дысертацыю, у якой аналізуе дапаможнікі для бацькоў аб развіцці немаўлят, і супастаўляе іх з сучаснымі перакананнямі, вераваннямі і міфамі пра тое ж развіццё. Асацыяцыя „Энтаграфічная майстэрня" з'яўляецца няўрадавай арганізацыяй, якая гуртуе ў першую чаргу этнографаў, краязнаўцаў і антраполагаў культуры. Абшарам іх зацікаўлення з'яўляецца як традыцыйная народная культура, так і сучаснасць.

Даследчыкі варшавяне Кая і Міхал Дэмскія з парай дзетак Ясем і маленькай Антанінай пасяліліся ў Цюмічах пад Крынкамі.

— Хочам, каб нашы дзеці вывучалі беларускую мову. Найбліжэй у школу, дзе навучаецца беларуская мова — у Гарадок. Цюмічы цудоўнае месца, але ў Гарадок далекавата, — кажа Кая, а Міхал, які насіў малечу на спіне ў адмысловай хустцы, дадае:

— Мая бабуля — родам з Меляшкоў. Вучылася ў Гарадку. Таму мяне цягне ў гэтую старонку.

Тэкст і фота
**Міры ЛУКШЫ**

**8 сакавіка г.г. у Падляшскай ваяводскай управе адбылася канферэнцыя па тэме падзей паўвекавой даўнасці ў Беластоку. Даклад на гэтую тэму зачытала Уршуля Герасімюк з беластоцкага Інстытута нацыянальнай памяці.**



Мечыслаў Мочар

# САКАВІК '68
## не толькі ў Беластоку

Падзеі сакавіка 1968 года ў Беластоку не мелі маштабнага характару, бо і беластоцкае студэнцкае асяроддзе было ў той час даволі кволае, толькі дзве вучэльні былі тады ў горадзе: Медыцынская акадэмія ды Вышэйшая інжынерская школа, а сам горад налічваў удвая менш жыхароў чым цяпер ды быў ахутаны шчыльнай інфармацыйнай заслонай. Падзеі таго часу, якія ўскалыхнулі Варшавай, у Беластоку праявіліся адно некалькімі дзясяткамі рукапісных лістовак, нейкімі сціплымі сустрэчамі да трыццаці асоб. Нават нікога тады не выкінулі са штудыяў, так як было гэта ў Варшаве.

Таму шмат месца было прысвечана агульнапольскаму ракурсу тадышніх падзей. Паколькі здарэнні адбыліся некалькі месяцаў пасля ізраільска-арабскай маланкавай вайны ў чэрвені 1967 года, а галоўнымі завадатарамі Сакавіка '68 былі менавіта студэнты з яўрэйскімі каранямі, тады і ў бок гэтай нацыянальнай супольнасці абярнулася вастрыё рэакцыі тадышніх улад. Дадаць трэба, што пражываючыя тады ў Польшчы яўрэі не скрывалі свайго захаплення поспехамі сваіх аднапляменцаў на Блізкім Усходзе, якіх падтрымліваў Захад. У выніку таго захаплення поспехам Захаду каля 130 тысяч асоб яўрэйскай нацыянальнасці былі тады прымушаны пакінуць Польшчу.

У іх ліку быў і былы рэктар (1959-1962) беластоцкай Медыцынскай акадэміі Якуб Хлябоўскі. Вікіпедыя: „Usunięty z uczelni na fali wydarzeń marcowych. 22 kwietnia 1968 odbyło się otwarte zebranie organizacji partyjnej, w którym uczestniczyli wszyscy pracownicy i studenci uczelni. W dokumentacji AM w Białymstoku znajduje się pismo Komitetu Uczelnianego PZPR z dnia 23 kwietnia 1968, o następującej treści: Komitet Uczelniany Polskiej Zjednoczonej Partii Robotniczej przy Akademii Medycznej w Białymstoku po rozpatrzeniu sprawy w dniu 22 kwietnia 1968 roku stawia wniosek do obywatela ministra zdrowia przez jego magnificencję rektora tutejszej uczelni o odwołanie profesora doktora Jakuba Chlebowskiego ze stanowiska kierownika II Kliniki Chorób Wewnętrznych Akademii Medycznej w Białymstoku ze względu na wrogą postawę do Polskiej Rzeczypospolitej Ludowej i Związku Radzieckiego. 16 października 1968 Chlebowski wyemigrował wraz z rodziną do Izraela".




Асобай, якую асацыюецца з антыяўрэйскай кампаніяй тадышніх улад, быў Мечыслаў Мочар, тадышні міністр унутраных спраў. На канферэнцыі, дзе аўдыторыі было каля дзясятка асоб, якія палічылі сваім абавязкам службова там паказацца, з вуснаў загадчыка беластоцкага ІНП пачуў я, або мне здалося што пачуў, што Мечыслаў Мочар быў у сапраўднасці беларусам па прозвішчы Мікалай Дэмко. Падаўся я тады ў Вікіпедыю; і там тое прозвішча пацвярджаецца: „Mieczysław Moczar, właśc. Mikołaj (Nikołaj) Demko; vel Diomko, pseudonim Mietek, Moczar, Woron (Kruk), Ryszard, Bolek (ur. 23 lub 25 grudnia 1913 w Łodzi, zm. 1 listopada 1986 w Warszawie) — polityk komunistyczny okresu PRL, generał dywizji Korpusu Bezpieczeństwa Wewnętrznego, minister Państwowych Gospodarstw Rolnych i minister spraw wewnętrznych, wieloletni prezes Najwyższej Izby Kontroli. Członek KPP, PPR i PZPR, poseł na Sejm PRL II, III, IV, V, VI i VII kadencji. Agent wywiadu Razwiedupru/GRU, wiceprzewodniczący Ogólnopolskiego Komitetu Frontu Jedności Narodu w latach 1981-1983. Pochodził z rodziny chłopskiej, jego ojcem był Tichon Demko (lub Diomko), Białorusin ze wsi Szostakowo wyznania prawosławnego (aktywny działacz Komunistycznej Partii Polski w Łodzi), a matką Bronisława Wierzbicka, katoliczka, córka łódzkiego włościanina. W Sprawozdaniu wojewody łódzkiego opisany jako Mikołaj Diomko, s. Tichona i Bronisławy, ur. 10 grudnia 1913 w Łodzi, wyznania rzymskokatolickiego, żonaty, robotnik, zam. w Łodzi. Zdobył stosunkowo skromne wykształcenie — ukończył szkołę powszechną w Łodzi oraz 3-letnie kursy zawodowe. W latach 30. pracował jako robotnik w fabryce włókienniczej, skąd został zwolniony; w tym czasie związał się z ruchem komunistycznym; od 1937 członek Komunistycznej Partii Polski. [...] Popularne w tym czasie [1968] było powiedzenie: „Kto nie z Mieciem, tego zmieciem". Ideologia grupy Moczara była mieszanką nacjonalizmu, komunizmu, mieściła w sobie antysemityzm (dla niepoznaki nazywany „antysyjonizmem"), niechęć do wszystkiego co uznane za niepolskie, uwielbienie dla tradycji wojskowej oraz niechęć do liberalizacji systemu". Przez władze KPZR był postrzegany jako „polski nacjonalista" zagrażający stabilizacji układu władzy w Polsce. [...] Podczas „wydarzeń grudniowych" [1970] Moczar znalazł się na marginesie zdarzeń. 16 grudnia 1970 w Moskwie podczas spotkania z wicepremierem Piotrem Jaroszewiczem premier ZSRR Aleksiej Kosygin, przychylając się do konieczności zmiany I sekretarza KC PZPR, sprzeciwił się zastąpieniu Gomułki przez Moczara, popierając Edwarda Gierka. Kosygin tak scharakteryzował Moczara: „Jest to przewrotny i głęboko zdemoralizowany człowiek. Antysemita, dwulicowiec, mający nieskrywane skłonności dyktatorskie. (...) KPZR będzie odradzała polskim towarzyszom z KC PZPR wysuwanie Moczara na I sekretarza PZPR". 20 grudnia 1970, z poręczenia Edwarda Gierka, Moczar został członkiem Biura Politycznego KC PZPR".

Вікіпедыя пра мясцовасць, з якой выводзіўся бацька Мікалая Дэмко: „Шастакова — вёска ў Камянецкім раёне Берасьцейскай вобласьці, на правым беразе ракі Тачыя, за 19 км на захад ад Камянцу, за 53 км на поўнач ад Берасьця, за 19 км на ўсход ад чыгуначнай станцыі Высока-Літоўск на лініі Берасьце — Беласток. Уваходзіць у Ратайчыцкі сельсавет. У маёнтку Шастакова 4 студзеня 1826 году нарадзіўся Рамуальд Траўгут, адзін з кіраўнікоў паўстаньня 1863-1864 гадоў".

Рускамоўная версія Вікіпедыі пра Мочара: „Родился в семье выходцев из лодзинского (по другим данным — кольнинского) крестьянства. При рождении получил имя Миколай (Микола) Демко. Тихон Демко (Дёмко), отец Мечислава Мочара, был этническим украинцем и православным, мать — Бронислава Вержбицкая — полькой и католичкой". Украінская версія Вікіпедыі пра карані Мочара не згадвае; беларуская версія не згадвае пра Мочара зусім. Вытрымка з англамоўнай версіі: „He is known for his ultranationalist, xenophobic and antisemitic attitude which influenced Polish United Workers' Party politics in the late 1960s".

Наконт Мочара: мне асабіста цёпленька робіцца на душы, што карані ў гэтай маштабнай фігуры крыху сходныя з маімі: бацька зямляк, а маці мабыць нейкая сямейніца. А яшчэ цяплей робіцца ў польска-беларускім кантэксце: беларусы быццам стваралі гісторыю, а браты-палякі ствараюць гістарычную палітыку. Бо ж у святле апошніх нашых заканадаўчых навінак нельга асацыяваць антысемітызму з польскасцю, таму і Мечыслаў Мочар мае папоўніць кагорту знакамітых беларусаў...

**Аляксандр ВЯРБІЦКІ**

# Засталіся адно ўспаміны (38)

У Краснае Сяло, што ў Боцькаўскай гміне, я трапіў з кінаперасоўкай у лістападзе 1962 года. Вёска немалая, больш за сто дваццаць гаспадарак з мяшаным насельніцтвам — напалову праваслаўным і каталіцкім. Асноўнай крыніцай даходу сялян была гаспадарка. Зямля ў сяле неблагая, добрай якасці. Сяляне дабіваліся нядрэнных поспехаў. Гаспадаркі задбаны, бо працавітыя тут людзі жылі. Актыўна ўдзельнічалі ў грамадскіх пачынах. Збудавалі вуліцу ў сяле і святліцу з пустакоў. Ініцыятарам будовы была пажарная каманда са стагадовай традыцыяй. Як казалі старажылы, пачаткі пажарнай справы сягаюць 1865 года. Першым пасляваенным начальнікам пажарнікаў быў абраны Аляксандр Ляшкевіч сын Міхала — адданы справе чалавек. Зараз пасля вызвалення Бельшчыны ўступіў у рады Войска Польскага. Яго баявы шлях пралягаў ад Варшавы ў Берлін. Узнагароджаны бронзавым Крыжам „Віртуці Мілітары" і медалямі за вызваленне Варшавы і Берліна. Пасля вайны вярнуўся ў роднае сяло. З 1947 года ўзначальваў пажарную каманду. Актыўна працавалі пажарнікі. Карысталіся пажарным аўтамабілем „Жук", двума пажарнымі мотапомпамі з 500-метровай даўжыні пажарным шлангам. Аляксандр Ляшкевіч праз чатыры скліканні быў радным у Боцькаўскай гміне. Дабіваўся таксама нядрэнных вынікаў у сельскай гаспадарцы. Плён ягонай працы складаў 26-27 цэнтнераў жыта, 30 цэнтнераў ячменю ды аўса з гектара. Выхоўваў статак жывёлы з дванаццаці штук кароў і дзесяці вепрукоў.

Памятаю, як мы заехалі ўпершыню з кінаперасоўкай. Машыну паставілі побач святліцы. У вёсцы тады не было электратоку. Мае кампаньёны — механік Алік з шафёрам Скепкам кажуць: «Пойдзем у мясцовую краму ды пазнаёмішся з прадаўшчыцай». Мода тады была такая, што кіношнікі разменьвалі прадаўцам буйнейшыя купюры на дробныя грошы, якія выкарыстоўвалі пры скупцы яек. Калі мы зайшлі ў краму, дык у асобе прадаўшчыцы я пазнаў Марысю Падгурскую, сяброўку з сярэдняй школы, г.зн. з Тэхнікума сельскагаспадарчага рахункаводства ў Бельску-Падляшскім. Праўда, яна была на год старэйшая. Калі я паступіў у першы клас, яна вучылася ўжо ў другім. Але на выхадных падарожнічалі мы дамоў адным і тым жа цягніком: я з Лідкай Раманчук, аднакласніцай Марысі, у Чаромху, Марыся з Янкам Кандзельскім — у Рыгораўцы.

— А мы не будзем знаёмы? — з усмешкай кінуў я ў бок сяброўкі, калі апынуўся побач прылаўка. Дзяўчына недаверліва паглядзела на мяне.

— А Лідку Раманчук памятаеш?

— Владэк?...

— Ва ўласнай асобе.

Так вось, даражэнькія, пасля амаль дзесяці гадоў я спаткаў сяброўку па школьнай парце. Марыся папрасіла мяне на кватэру. Мела малодшую сястрыцу. Запрасіў я іх на вячэрнія сеансы, але адмовіліся. Іхняя сям'я была пяцідзясятнікамі. Я аб гэтым пасля даведаўся. А з Марысяй мы сустракаліся кожны раз пры нагодзе арганізавання кінасеансаў.

Памятаю, што ў Красным Сяле была чатырохкласная школа. Ранішнікі арганізавалі ў святліцы. Кінамеханік з шафёрам ладзілі знаёмства з каталіцкай сям'ёю. Здаецца, што гаспадара называлі Эдзікам. Гасцінныя і набожныя былі гэта людзі. Памятаю, як мы заехалі з кінаперасоўкай перад Вялікаднем, у час Вялікага посту. Да іх прыехала бабулька са Шлёнска. Мы трапілі на „свінабіцце". Гаспадар пачаставаў нас свежыною, ды закрапілі „чаркай". Старэнькай бабульцы гэта не спадабалася, але не паказала гэтага па сабе, не папракнула гаспадара. А на кінасеансы заходзіў Эдзік з дачкою і сынам. Так было з першых дзён да канца.

Калі электрыфікавалі вёску, мы яшчэ нейкі час заязджалі ў Краснае Сяло. Пасля нас перанялі кіношнікі са сталага кіно ў Боцьках. Заязджалі яны з кінаапаратурай на фурманцы. Па добразычлівых і гасцінных гаспадарах засталіся мілыя ўспаміны.

Наведваў я пасля Краснае Сяло ў палове сямідзясятых гадоў. Мая школьная сяброўка Марыся Падгурская працавала ўжо бухгалтарам у ГС у Боцьках. Карыстаўся я тады запрашэннем сардэчнага прыяцеля, павятовага каменданта пажарнікаў маёра Адоліка Часноўскага, чарамшаніна. Арганізаваў ён сходы мясцовых пажарнікаў, а я рабіў матэрыял для „Нівы". Такое супрацоўніцтва доўжылася ў час маёй працы на дзяржаўнай чыгунцы. Сябру пасля перавялі ў ваяводскую камендатуру пажарнікаў у Беласток. Затым атрымаў ён павышэнне да чыну палкоўніка і назначылі яго ваяводскім камендантам пажарнікаў у Ломжы. З таго часу нашы кантакты абарваліся.

(працяг будзе)

Уладзімір СІДАРУК




Адзіная ў свеце краіна, дзе беларуская мова лічыцца дзяржаўнай — гэта Беларусь. Беларусь таксама адзіная ў свеце краіна, дзе часцей за ўсе іншыя можна пачуць, што беларуская мова нікому непатрэбная. Гэта вельмі прыкра, але такая рэчаіснасць, якая стала вынікам знішчэння мовы ў апошнія дзесяцігоддзі існавання камуністычнай улады і цягам амаль чвэрцьстагоддзя панавання прэзідэнта Лукашэнкі.

Звыклы да трасянкі ці рускай мовы звычайны насельнік Беларусі будзе разглядваць як нейкія жывыя музейныя экспанаты людзей, якія на вуліцы будуць размаўляць па-беларуску. У такіх варунках нядзіўна, што дзецям у Беларусі навучыцца беларускай мове няма дзе. Нават тамтэйшыя школы не даюць дастатковых ведаў для вядзення камунікацыі па-беларуску. А пра тое, што атрымаць вышэйшую адукацыю на беларускай мове ў Беларусі няма ніякай магчымасці, ужо не адно дзесяцігоддзе распавядаюць апантаныя беларушчынай актывісты.

Адзінае месца, дзе маленькія хлопчыкі і дзяўчынкі могуць навучыцца беларускай мове, гэта іх сем'і. Канешне, у тых выпадках, калі ў гэтых сем'ях ёсць тыя, хто сам размаўляе па-беларуску і мае жаданне навучыць ёй сваіх дзяцей. Але нават такім бацькам час ад часу прыходзіцца адлучацца з дому, а дзяцей пакінуць няма на каго. Звычайна ў такіх выпадках на дапамогу прыходзяць няні, аднак у беларускіх рэаліях знайсці беларускамоўную няню задача не з простых. І была б зусім невырашальнай, калі б не некаторыя адмысловыя агенцыі, уладальнікі якіх не лічаць, што беларуская мова нікому непатрэбная. Адна з такіх агенцый знаходзіцца ў Мінску і мае назву „Як мама".

Сайт дадзенага сэрвісу па доглядзе за дзецьмі знаходзіцца ў інтэрнэце па адрасе **http://jakmama.by**. „Як мама" — сэрвіс для пошуку надзейнай няні на гадзіну", — распавядаецца на галоўнай старонцы партала. Там жа месціцца фотаздымкі няняў, сярод якіх нават адзін хлапец. Усяго там тых, хто прапануе свае паслугі па доглядзе за дзецьмі васьмёра, пяцёра з іх могуць рабіць сваю справу па-беларуску. „Сэрвіс «Як мама» стаў для нас паратункам, бо здаралася замаўляць няню сёння на заўтра і шукаць надзейнага чалавека часу наўпрост не было. За лета пазнаёміліся ледзьве не з усімі, хто ў той час працаваў. Усе няні прыемныя і добра ладзілі з сынам, амаль усе размаўлялі па-беларуску", — піша ў сваім водгуку на сайце „Свае" Алена К.

Варта адзначыць, што ўласна сайт мае толькі беларускую версію. На старонцы „Каманда «Як мама»" можна даведацца, што сэрвіс стварылі „шчаслівыя бацькі дваіх дзяцей, гатовыя дзяліцца сваёй верай у людзей і дабро. Канстанцін і Ганна Шамко, праграміст і лінгвіст".

Калі верыць артыкулу ў газеце „Наша ніва", то ініцыятарам гэтага сямейнага бізнесу ёсць менавіта Ганна, украінка па нацыянальнасці. „Мне вельмі падабаецца беларуская мова, я стараюся заўсёды ўжываць яе ў гутарцы з сябрамі ды з беларускамоўнымі кліентамі, якіх, апошнім часам, становіцца ўсё больш", — сцвярджае дзяўчына. Праўда, пакуль дадзены бізнес не прыносіць маладым прадпрымальнікам значных прыбыткаў, таму паралельна яны працуюць на асноўных месцах: Ганна займаецца перакладамі, а Канстанцін — праграмаваннем, адзначаецца ў артыкуле.

Аляксандр ЯКІМЮК

ДАТА З КАЛЕНДАРА

Падзеі і асобы БНР

## 75 гадоў з дня смерці
# Васіля Захаркі

75 гадоў таму, 14 сакавіка 1943 г. у чэшскай Празе памёр Васіль Захарка, беларускі грамадска-палітычны дзеяч, старшыня Рады БНР з 1928 года.

Нарадзіўся ён 1 красавіка 1877 г. у вёсцы Дабрасельцы (Зэльвенскі раён). Пачатковую адукацыю атрымаў дома. Скончыў Лыскаўскую настаўніцкую семінарыю. З 1895 г. — настаўнік царкоўнапрыходскай школы. Вытрымаў экзамен па праграме юнкерскай вучэльні і расійскай гімназіі. З 1898 г. працяглы час на ваеннай службе. У 1917 г. сябра БСГ, адзін з арганізатараў з'езду беларускіх вайскоўцаў Заходняга фронту, сакратар Цэнтральнай беларускай ваеннай рады. Удзельнік І-га Усебеларускага з'езду, абраны сябрам рады. Арыштоўваўся бальшавікамі ў студзені 1918 г. З лютага 1918 г. у складзе народнага сакратарыята БНР, скарбнік у гэтым урадзе. Вёў перамовы з нямецкімі ваеннымі ўладамі па справе канфіскаваных грошай, абраны сябрам фінансавай камісіі Рады БНР. Пасля займаў розныя міністэрскія пасады. З мая 1918 г. — кіраўнік друкарні Народнага сакратарыята БНР. Разам з Макаром Касцевічам абраны Мінскай думай міравым суддзёй. У ліпені 1918 г. увайшоў у склад кабінета Янкі Серады, заняўшы пасаду народнага сакратара фінансаў. Міністр фінансаў ва ўрадзе Антона Луцкевіча. У снежні 1918 г. — у Вільні.

Прыехаў у Гродна ў снежні 1918 г., як ганаровы госць прысутнічаў на Гарадзенскім беларускім сялянскім з'ездзе. Выконваў абавязкі кіраўніка канцыляры міністэрства беларускіх спраў Літвы. Сябра Гарадзенскага Беларускага нацыянальнага камітэта (БНК) і клуба „Беларуская хатка". У снежні 1918 г. удзельнічаў у перамовах БНК з Гарадзенскай управай. Вёў дыпламатычную працу з немцамі. Разам з Антонам Луцкевічам даслаў некалькі нот пратэсту ад імя ўрада БНР супраць захопу беларускіх земляў. З другой паловы лютага 1919 г. — ва Украіне, дзе шукаў грошы для БНР. У траўні 1919 г. — у Берліне. У чэрвені 1919 г. — у Коўне як часовы намеснік старшыні ўрада БНР. Потым зноў у Берліне, дзе фактычна выконваў абавязкі кіраўніка беларускага ўрада.

Пасля расколу Рады БНР у канцы 1919 г. Захарка абраны намеснікам старшыні Прэзідыума Народнай Рады БНР, потым урадам Луцкевіча адхілены з пасады міністра. Ішлі сваркі. Зноў прыехаў у Гродна ў сакавіку 1919 г. з Берліна. Прысутнічаў на пасяджэннях урада БНР у Гродне 18 і 21 сакавіка. Выступіў 25 сакавіка 1919 г. на развітальнай вячэры, прысвечанай ад'езду Язэпа Варонкі. Як прадстаўнік урада БНР удзельнічаў у адкрыцці І-га беларускага настаўніцкага з'езду Гродзеншчыны. Ад імя Рады міністраў БНР апратэставаў заяву Цвіркі-Гадыцкага аб далучэнні Беларусі да Польшчы. Неўзабаве выехаў з Гродна ў Берлін.

У канцы 1919 г. быў у Мінску, хаваўся ад арышту польскімі ўладамі. На пачатку 1920 г. зноў у Берліне, потым у Празе. Удзельнічаў у нарадзе прэзідыума Рады БНР і ўрада Вацлава Ластоўскага ў Рызе. Потым вёў місію БНР у Маскве. Пасля ў Рызе, зноў у Коўне. Намеснік старшыні І-й Усебеларускай канферэнцыі ў Празе ў верасні 1921 г. У 1923 г. — міністр фінансаў ва ўрадзе Цвікевіча. Пасля ІІ-й Усебеларускай канферэнцыі ў Берліне не прызнаў Мінск адзіным цэнтрам нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння Беларусі. Застаўся ў эміграцыі ў Чэхіі. Намеснік старшыні Рады БНР, з сакавіка 1928 да сакавіка 1943 г. — прэзідэнт Рады БНР. Збіраў архіў БНР, далучыў да гэтай справы Ларысу Геніюш. Ад імя БНР праводзіў актыўную кампанію зваротаў і петыцый у Лігу Нацый і іншыя міжнародныя органы.

Пахаваны Васіль Захарка на Альшанскіх могілках у Празе. Памяць пра яго ў Беларусі не ўшанавана.

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# На рэабілітацыйным аддзяленні (16)

Вярнуўся Мірэк з пляшкай „Зуброўкі”. Тадзік паліваў. Бяседнікі выпівалі па глытку вогненнага напітку. Нават мае сяброўкі са Шлёнска, Івона з Бажэнай. Калі чарга падышла да мяне, адмовіўся:

— Лякарства бяру.

— А хто не бярэ? — адазваўся Мірэк і дадаў: — Для кампаніі цыган павесіўся.

Калі Тадзік паліваў у другую чаргу, дык у бутэльцы заставалася няшмат вогненнага напітку. „Банкір” так разліваў, каб усім хапіла па глытку.

— Дык наліце і мне, — папрасіў я Тадзіка і Івона падала яму кубачак.

Глыток араматна-зёлкавай зуброўкі разагрэў душу. Лёнік заняўся пячэннем каўбасак. Нанізваў вяндліну на завостраныя палкі ляшчыны і падпякаў на вогнішчы. Яго следам пайшлі Мірэк з Ёзікам. Мужчыны падносілі гарачую каўбаску жанчынам да стала.

У кампаніі хутка сцякаў час. Івона з Бажэнай дзяліліся ўражаннямі ад падарожжа.

— А мо нешта мне раскажаце, — умешваючыся ў ход размовы, папрасіў я. — Карэспандэнтам „Нівы” з’яўляюся, — і падаў прэсавы білет.

Суседка агледзела чырвоную кніжачку з залатым надпісам „ПРЭСА” і, вяртаючы білет, сказала:

— Дык аб чым хочаце пісаць?

— Вось, хоць бы аб учарашняй веласіпеднай вандроўцы ў Беларусь. Паспяхова закончылася экскурсія?

— Файна было, толькі, — нахіліўшыся Івона ў мой бок паўшэптам дабавіла: — „Сядзенне” баліць ад шматгадзіннай язды, — і далей рабіла справаздачу з падарожжа.

— Зведалі мы Белую Вежу ў Каменюках. Запаведнік звяроў, музей прыроды, турыстычныя шляхі. Пагасцявалі ў Дзеда Мароза. Шыкарна прэзентуецца. Дарогі і турыстычныя шляхі абазначаны. Ды і лес акуратна задбаны. Відаць гаспадарскую руку. Там, пэўна, эколагі не ўмешваюцца...

— Вы, здаецца, збіраць грыбы запускаліся, — змяняючы тэму, пытаю гаваркую бландзінку. — Не баяліся заблудзіць у пушчы?

— У Белавежы не заблукаешся, — гаворыць субяседніца. — Пагранічнікі не дазволяць. Вайскоўцы засяклі нас неспадзявана ў лесе. Быццам з-пад зямлі выраслі. Павучылі, як паводзіць сябе ў прыгранічнай зоне.

Калі мы загаварылі аб вясковых справах, Івона запытала:

— За колькі можна было б купіць у вас драўняны дом? Невялікі, разумеецца.

— Тысяч восемдзесят, — кажу, — мо каля сотні. Хочаце перасяліцца?...

— Так пацікавілася, — затым дабавіла: — Пад старасць чалавек хоча ўцячы ад гарадскога шуму, смуроду, выпарэнняў. Падыхаць свежым паветрам...

— А ваша моладзь? Чым займаецца на вёсцы? — цікаўлюся.

— У мяне дзяцей няма, — гаворыць Івона і, звяртаючыся да Бажэны: — Скажы, мілая, чым займаюцца твае хлопцы?

— А чым жа, як не камп’ютарнымі гульнямі, — адказала сяброўка.

Набліжаўся вечар. Першая адышла Ева з Беластока. Затым Марыя з паняй Ясяй. Следам падаліся Мірэк з Лёнікам. Яшчэ з паўгадзінкі вялі мы супольную размову аб турыстычных вандроўках дзяўчат па Падляшшы шляхам святынь розных веравызнанняў. А калі заляглі першыя поцемкі, сяброўкі сказалі:

— Сёння ўжо позна. Заўтра спаткаемся і закончым бяседу, — затым, падняўшыся ад стала, накіраваліся да выхаду. Ёзік з Тадэвушам далучылі да дзяўчат. Я пакрысе пачаў замаруджваць. Цяжка было рухацца пры поцемках з балючымі нагамі. Угледзеўшы маю бяссільнасць, Івона з Бажэнай саставілі мне кампанію і дапамаглі дабрацца ў гасцініцу. З Ёзікам і Тадэвушам развіталіся мы на першым паверсе, дзе знаходзіліся іхня кватэры. Мы на ліфце падняліся на трэці паверх. Затрымаліся перад пакоем „Граб 1”. Пажадаўшы мне добрага адпачынку і спакойнай ночы, сімпатычныя кампаньёнкі падаліся да суседняй сваёй кватэры.

(працяг будзе)

❖ **Уладзімір СІДАРУК**







## Адгаданка Адгаданка Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую прыказку.

1. дрэва ў... цыбуку = 8 _ 9 _ 1 _;
2. дрэва ў бярэзіне = 20 _ 21 _ 27 _ 28 _ 29 _ 26 _;
3. транспартны сродак з аглоблямі = 10 _ 11 _ 12 _;
4. бахчавая расліна, якую трымае... гаспадыня = 22 _ 23 _ 16 _ 17 _;
5. гарадок між Лідай і Валожынам = 4 _ 24 _ 30 _;
6. маці Кастара і Полукса = 6 _ 13 _ 25 _ 19 _;
7. пара года з Пятроўкай і Спасаўкай = 3 _ 7 _ 14 _ 2 _;
8. расліна мокрых мясцін, якую трымае... Цімох = 18 _ 15 _ 5 _.

(ш)

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 |
| | | | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 |
| | | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 |
| | 20 | 21 | 22 | 23 | | | |
| | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 8 нумара**

Лукашэнка, рабро, маўр, загс, ануча, Ліндберг, вона, каза, ё, дым, войт, грудок, зефір, аздоба, блыха, вярблюд.

Рашэнне: **У добрага чалавека заўсёды многа добрых людзей**.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Анне Дэм’янюк** з Бельска-Падляшскага.

# 18.03 — 24.03

**(22.03. — 20.04.)** Паправіцца настрой. Падкруціцца амбіцыя, таму на спачнеш на лаўрах. Зможаш бліснуць талентам, злавіць шчаслівую нагоду. Калі не маеш другой палавінкі, бывай у людзях асабліва 19-21.03. Нагоды для дзеяння пасля 20.08. Новых нагод для працы выглядвай 19-21.03., але не бяры ўсяго што даюць. З 22.03. (да 26.03.) можаш мець цяжкія перапалкі сваіх нерваў.

**(21.04. — 21.05.)** Можа наступіць імпас у планах. Але дасі рады аформіць найважнейшыя справы. На дазволіш пахіснуцца сваёй жыццёвай раўнавазе. Удачы ў сардэчных справах. Але абмяжуй давер да выпадковых асоб, бо ад 23.03. будзеш лішне даверлівы і наіўны. Вельмі пільнуйся з 22.03. (да 26.03.) — падсунуць табе спадзаванні хуткага заробку ды хутчэй страціш, чым заробіш.

**(22.05. — 22.06.)** Час спрыяе кантактам (найбольш да 23.03.). Расстанне можа быць найлепшым выбарам з 22.03. (да 26.03.). Калі шукаеш добрага месца працы, сам сабе яго ствары, найлепш да 22.03., або 19-21.03. папрасі шэфа аб павышэнні. Усе справы афармляй пісьмова. Старайся ашчаджаць. Зайдзі да зубнога ўрача. Будзеш схільны да саперніцтва і спешкі, пільнуйся на дарозе, пры спорце.

**(23.06. — 23.07.)** 18.03. можаш аформіць старыя справы. З 17.03. прачнецца ў табе ахвота пасапернічаць. Да 19.03. будзеш у сямейнай гармоніі, пасля заўпарцішся. Магчымыя напружанасці ў пары. Пазбягай шматзначных сітуацый з 22.03. (да 26.03.), плануй важныя бізнесовыя прыёмы. Старайся не злавацца ад 22.03. А пасля 22.03. спадзявайся нагрувашчання абавязкаў і заданняў, прыйдзецца пасядзець даўжэй на працы.

**(24.07. — 23.08.)** 19-21.03. уцешаць цябе дадатковыя прыбыткі. Выцягнуць цябе з дому. Калі цярпіш у пары, з 22.03. (да 26.03.) можаш рашыцца на рэзкае парванне сувязей. Дзякуючы каштоўным парадам сяброў пазбегнеш памылак з 22.03. (да 26.03.). Магчымыя дадатковыя грошы (19-21.03.) выкарыстай на паправу камфорту дома. Да 23.03. час спрыяе тым, што вучацца новаму; фірма можа фінансаваць абучэнне. Не кідайся на магчымы «залаты» заробак з 22.03. (да 26.03.), будзе рызыкоўна і хутчэй стратна. Ідзі спаць не пазней 23 гадзіны.

**(24.08. — 23.09.)** Адробіш страты. Будзе рамантычна. Не вер плёткам на тэму каханай асобы. Пазнаёмішся з новымі людзьмі. Пасля 23.03. можаш адчуць, што на працы топчашся ў адным месцы, робячы шмат ды не канчаючы, будзеш рассеяны, можаш пасварыцца з супрацоўнікамі. Асабліва не давай абяцанняў, бо можаш забыцца. Старайся не інвеставаць усіх сродкаў. Да 23.03. парабі ўсе лекарскія абследаванні, пільнуй папер.

**(24.09. — 23.10.)** Будзеш умела з’ядноўваць саюзнікаў. У пары будзь асцярожны — ад 22.03. (да 26.03.) ад зайздрасці будзе блізка да нянавісці. Не пагражае табе цяпер прадказальнасць! А на працы можаш стаць рабочым валом, знюхаўшы павышэнне. Але пасля 23.03. можа аказацца, што ўзяў ты сабе зашмат. 19-21.03. цікавыя задумы на бізнес, але далучы да яго знаёмых і сяброў — разам зробіце больш.

**(24.10. — 22.11.)** Абмінеш перашкоды да поспеху. Прыцягнеш новыя шанцы. Удачы ў мастацтве. Парабі парадкі ў сваёй душы з 23.03. (да 27.03.); можаш заглянуць да псіхолага ці астролага. З 22.03. (да 26.03.) не мусіш ісці ў госці, калі не хочацца. Скарпіёны з другой дэкады маюць шанцы знайсці новае жытло. З 18.03. лепшая форма. Але з 21.03. (да 27.03.) старайся не парушыць чужых меж.

**(23.11. — 22.12.)** Хоць акалічнасці не заўжды будуць спрыяць, разлічвай на сваю кемлівасць і шчасце. Магчымыя канфліктныя сітуацыі. Някепска ў інтарэсах і падарожжах. 19-21.03. можаш сустрэць незвычайную асобу; калі закахаешся, схочаш абвясціць гэта ўсяму свету. 17-18.03. могуць здзейсніцца твае мары. Лепш мець яўных ворагаў, чым фальшывых сяброў. Можаш заснаваць нейкую суполку. Грошы, якія цяпер заінвестуеш, вернуцца двойчы. Стральцы з другой дэкады добра заробяць на мастацтве. Адазвуцца старыя кантузіі ці болі, варта палячыцца, адпачыць.

**(23.12. — 20.01.)** Завострыцца твой апетыт на прыбытак. Будзеш цвёрдым негацыянтам. Прачнецца твая інтуіцыя і фантазія. З 22.03. (да 26.04.) каля твайго партнёра будзе круціцца канкурэнцыя, і прыйдзецца стаць табе зноў да саперніцтва. Заглянь у сваю шафу, можа трэба штосьці прыкупіць. Можа паявіцца надзея на змену працы. Кантралюй ціск, з 21.03. (да 27.03.) будзь асцярожны з агнём; лепш не сядай за руль, бо можаш таксама пакалечыць іншых.

**(21.01. — 19.02.)** Рабі смелыя планы. Твае рашэнні будуць разумныя і свядомыя. Добры настрой, адкрытасць. Можаш шмат зарабіць і прыашчадзіць, хаця будзеш схільны да перабольшвання. Пасля 23.03. цяжка будзе захаваць парадак дома. На працы будзеш блізка людзей уплывовых і на высокіх пасадах, але шануй сваіх падуладных.

**(20.02. — 21.03.)** Не будзе нудна і адзінока. Твае прыбыткі ўзрастуць, чакае цябе павышэнне, кар’ерны рост. Атрымаеш імпульс да хуткага дзеяння. Сонца падкажа новыя мэты, прыхільнікаў, разумныя рашэнні. Не бойся спраў звязаных з нерухомасцямі, спадчынамі, падзелам маёмасці. Можаш разлічваць не фінансавыя бонусы.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

**Ніва** ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 300 egz.

**— Ці Міра Лукша атрымае ўзнагароду Казанэцкага? — спыталі мяне беластачанкі Альжбета і Люба Марчук, якіх я сустрэла ў адным перапоўненым супермаркеце напярэдадні першай негандлёвай нядзелі.**



# Хто возьме прэмію Казанэцкага?

Гэтае пытанне з прыхаваным спадзяваннем — найбольш гарачая тэма апошніх дзён у беларускамоўных кругах, медыях і тусоўках. Пытанне як небывалую сенсацыю ставяць замест «Добры дзень» і доўга ды горача даказваюць выключнасць пісьменніцы, яе талент, успамінаюць яе жыццёвыя перыпетыі і прыгоды. Гэты жывы, народны піяр — вынік працавітасці, непаседлівасці і літаратурных напрацовак Міры Лукшы, частка якіх сталі ўжо народнымі. Наша рэдакцыйная сяброўка — аўтарка 16 кніг, журналістка і перакладчыца, асоба вядомая ў прасторы горада, рэгіёна і ў свеце беларускай пісьменнасці...

Рашэнне, хто з пяці намінаваных аўтараў атрымае прэмію Прэзідэнта Беластока высветліцца ўжо 23 сакавіка г.г. Напярэдадні, у атмасферы спадзяванняў, 6 сакавіка ў беластоцкай кавярні «Фама» адбылася сустрэча з чатырма намінаванымі аўтарамі: Мірай Лукшай, Ігнацы Карповічам, Аннай Камінскай і Кшыштафам Пулаўскім (не даехала кракавянка Эва Владарская, намінаваная за кнігу «Ліцэнзія на першы снег»). Прэзентацыя, на думку ніжэйпадпісанай, найбольш святла кінула на творчасць беластачан: Міры Лукшы і Кшыштафа Пулаўскага. Ігнацы Карповіч, хоць родам з Беластока, разглядаўся як адзін з найбольш цікавых аўтараў сучаснай польскай літаратуры. Яго новую кнігу «Любоў» сталічныя крытыкі называюць рэтрафутурыстычным раманам, які вызваляе ад сораму, страху і маны. Дзеянне адбываецца ў шляхецкім двары ў ранішнія пасляваенныя гады, у дыстапійнай будучай Польшчы, у казачным каралеўстве, якое наведала пошасць. Ніхто не хоча быць самотным, кожны жадае здзейсніцца і кожнага чакае боль і скрыгат зубоў.

Ігнацы Карповіч, які заваяваў ужо чатыры прэміі Веслава Казанэцкага, творчы працэс параўнаў да змагання чалавека, кінутага на мора, які змагаецца з усёй сілы, каб не патануць. І там замест вады, — гаварыў ён, — трэба плысці не па вадзе, а праз пясок. Таму найбольш прыемным у творчым працэсе, — адзначыў на жартоўнай ноце, — момант, калі на рахунку ганарар...

Кніга-рэпартаж «Белавежа шэптам» Анны Камінскай, якая таксама набыла агульнапольскую вядомасць, пра людскае аблічча Белавежы, якое датыкае гісторыя, хоць у пэўнай меры нязменнае і непадатнае на дзеянні звонку.

— Я не магла б жыць без чалавека, — кажа аўтарка.

У Белавежу заставіла яе вярнуцца ранейшая кніга-бестселер пра Сімону Косак, легендарную біёлаг і ахоўніцу пушчы. У час працы над біяграфіяй наслухалася шмат аповедаў пра людзей з зялёным сэрцам.Гэтыя расказы паклікалі яе зноў у Белавежу, каб нанова расказаць гісторыю самай вядомай у Еўропе вёскі праз прызму людзей. Найбольшая прыемнасць у творчым працэсе, — як прызналася Анна Камінская, — момант у час пісання, калі перажывае нанова дарунчаны ёй лёс герояў.

— А для мяне важна, каб чытач меў большую прыемнасць як я, — заявіў Кшыштаф Пулаўскі.

Кніжка «Мартвёнтка» напамінае, што літаратура гэта таксама забава, запрашэнне да інтэлектуальнай ігры. Чаму карыстаецца псеўданімам? Каб не быць заранеў ва ўсім надта ўпэўненым. Сучасны чытач, калі бярэ ў рукі кніжку вядомага аўтара, адразу мае сваё меркаванне. А трэба, каб ён быў уважлівы, каб не ішоў па слядах схем і прывычак.

Вядучы сустрэчу Дамінік Салавей прыгадаў выказванні Міры Лукшы да мастацкага праекта аўтарства Касі Валкавыцкай пра свабоду і правы чалавека. Тады яна сказала: *Свабода — гэта права хадзіць па сваёй зямлі сваімі сцежкамі, гаварыць на сваёй мове, сустракаць тых людзей, з якімі хочацца размаўляць, без уцёкаў ад тэм і самой сябе. І гаварыць на сваёй роднай гаворцы.*



■ Міра Лукша і Ігнацы Карповіч

Міра Лукша ў 2017 годзе атрымала Узнагароду Сусветнага Дня паэзіі, устаноўленага праз ЮНЕСКА, за выданне польска-беларускай кнігі „Rodosłów — Радасоў" варшаўскім выдавецтвам Ibis. Намінацыю атрымала за творчыя дасягненні з прыкмечаннем згаданага тома «Rodosłów».

— Вы дасканала карыстаецеся нарацыяй на дзвюх мовах: на польскай і беларускай, будуеце цэласць прымяняючы розныя спосабы выказвання, — гаварыў вядучы. — Як гэта адбіваецца на псіхіцы аўтара, якое гэта пачуццё?

— Я пачала пісаць на сваёй матчынай мове, на беларускай мове, — адказала паэтка, — польскай навучылася ў школе. Пачуццё такое, што я ў паэзіі магу свабодна выказацца на дзвюх мовах. Гэта пашырыла маё сэрца, мой мозг на штосьць глыбейшае, тое штосьць, што занесла ў вершы. Я чалавек, які вандруе па адміраючых, забытых вёсках, дзе сустракаю душы людзей, але таксама ўваходжу ўглыб іх гісторыі. Гэтая неадназначнасць спрацавала, што я найбольшая і найшырэйшая, што відаць нават на фоне тых, што тут сядзяць *(смяецца)*. Праз гэтую падвоенасць і неадназначнасць бачу далей, глыбей і шырэй. Займаюся таксама перакладамі, праз што пашыраю сваю мову на іншае думанне. Пераклады, калі мы ператвараем псіхіку аўтара, спрыяюць, каб лепш пісаць, ісці далей, дайсці да глыбіні слова. Бо шматслоўе забівае паэзію і прозу таксама...

Аўтарка «Радаслова» адказала таксама на пытанне:

— У якой меры мы, тут у Беластоку, усведамляем існаванне беларускай мовы?

— Няма што прыкідвацца, — гаварыла Міра Лукша, — нашы беларускія і польскія лёсы моцна з сабой перапляцены. Амаль кожны з нас мае нейкую бабулю Надзю, Любу, дзеда Івана, Васіля, Нікіфара. Цяжка тыя лёсы расплятаць, ды і непатрэбна, бо праз гэта мы мацнейшыя. Мы — еўрапейцы.

Наша сяброўка атрымала гарачыя воплескі ад публікі. Варта таксама дацаніць яе перакладчыцкі клопат. Кнігі беластоцкіх аўтараў на беларускай мове, хоць дапускаюцца рэгламентам конкурсу, як паказаў мінулагодні прыклад, не разглядаліся журы. У гэты раз капітул Літаратурнай узнагароды Прэзідэнта горада Беластока імя Веслава Казанэцкага састаўляюць Галіна Казанэцкая, Яраслаў Кляйноцкі, Марк Каханоўскі, Катажына Савіцка-Мяжынская, Дорота Сакалоўская, Кацярына Здановіч і Данута Пецюль (сакратар капітула). Яны вызначаць свае меркаванні і кандыдата да ўзнагароды, якую зацвердзіць прэзідэнт горада Тадэвуш Трускаляскі. Што ж...

Разам з сябрамі і чытачамі „Нівы" жадаем Міры Лукшы ўдачы!

Тэкст і фота
**Ганны КАНДРАЦЮК**

* * *

**Міра Лукша** нарадзілася ў 1958 г. у Гайнаўцы. Закончыла філфак па рускай і польскай мовах на Універсітэце ў Беластоку. Дэбютавала на старонках „Нівы", у якой працуе журналістам і перакладчыкам з 1985 года. Член літаб'яднання «Белавежа» і Саюза беларускіх пісьменнікаў. Выдала дзевяць тамоў паэзіі: „Замова" (1993), „Ёсьць" (1994), „Wiersze tutejsze" (2003), „Жывінкі з глыбінкі" (2009), „Пад знакам Скарпіёна" (2011), „Biały stok" (2012), „Падарункі" (2014), „Rodosłów-Радаслоў" (2017), „Спеў дрэў" (2017) і сем кніг прозы — „Дзікі птах верабей" (1992), „Выспа" (1994), „Бабскія гісторыі" (2001), „Дзяўчынка і хмарка" (2006), „Гісторыі з белага свету" (2008), „Życie pozagrobowe i inne" (2013), „Гражынка і Грак" (2016).


ISSN 0546-1960